
Бельскія барды → 3

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

PL ISSN 0546-1960 NR INDEKSU 366714


Віталь Гарбуз → 5

http://niva.bialystok.pl
redakcja@niva.bialystok.pl

№ 45 (3156) Год LXI Беласток, 6 лістапада 2016 г. Цана 2,50 зл. (у тым VAT 5%)


**Міра Лукша:** — Як дайшлі Вы да беларускасці?

**Дзмітрый Шатыловіч:** — Што я — беларус, даведаўся ад свайго бацькі, які навучыў мяне, калі я меў пяць гадоў, чытаць кірыліцу. Мой бацька перад Першай сусветнай вайной працаваў на чыгунцы. Першапачаткова быў тэлеграфістам, а пасля начальнікам чыгуначнай станцыі ў Рыгораўцах. Падчас Першай сусветнай вайны быў вывезены аж за Пецярбург і быў кіраўніком станцыі паміж Пецярбургам і Архангельскам. Усе жыхары вёскі Чаромхі ведалі, што яны праваслаўныя беларусы, хоць чыстай беларускай мовы не ведалі. У 1939 годзе я закончыў шэсць класаў польскай школы. Пачалася Другая сусветная вайна. Далучылі нас да СССР. Два месяцы я вучыўся ў чыгуначным тэхнікуме ў Брэсце, ды цяжка было даязджаць у Брэст і пад канец лістапада прынялі мяне ў шосты клас Беларускай сярэдняй школы ў Бельску-Падляшскім і там пачаў вучыцца беларускай мове. У 1940 і 1941 гадах я з вучаніцай Бараноўскай, якая прыехала з Беларусі і ведала вельмі добра беларускую мову, і пры дапамозе настаўніцы беларускай мовы пісалі часта вершы ў школьную насценгазету. Яшчэ меў я пяць месяцаў урокі беларускай мовы ў 1946 годзе ў Беларускай гімназіі ў Бельску-Падляшскім, калі вярнуўся з Бабруйска з Чырвонай Арміі.



*Дарагому Другу*
*Дзмітрыю Шатыловічу*
*у Дзевяностую гадавіну*

*Ужо і Ты мой Дружа Дзіма,*
*Маеш гадкоў шмат за плячыма.*
*Жыцця такія каляіны,*
*Што час крадзе гады няспынна.*
*Яшчэ мы у сямейнай цішы*
*Жывем не толькі – але пішам!*
*І захапляемся мы нашым*
*Родным, так блізкім нам, Пядляшшам.*
*І нас яшчэ, далей нязломных,*
*Асеннія ласкаюць промні*
*І падбадзёрваюць нас крышку,*
*Каб свежыя пісалі кніжкі.*
*Табе жадаю ў Юбілеі*
*Здароўечка, з такой надзеяй*
*Каб Дзіма Ты ад Свайго Свята*
*Пражыў яшчэ гадкоў багата!*

***Віктар Швед***
*Беласток, 8 лістапада 2016 года*

# Дзмітрыю Шатыловічу 90!

**Міра Лукша:** — Раскажыце пра пачаткі беларускага літаратурнага руху, у якім Вы прымалі ўдзел.

**Дзмітрый Шатыловіч:** — Я атрымаў наказ працы ў праектным бюро ў Варшаве ад 1 сакавіка 1954 г. Калі я працаваў у Варшаве, у 1956 годзе купіў неспадзявана там беларускую газету «Ніву» і даведаўся, што ў Беластоку ў лютым 1956 г. узнікла Беларускае грамадска-культурнае таварыства і пачаў выдавацца беларускі тыднёвік «Ніва». Я выслаў у рэдакцыю «Нівы» свой першы верш «Падляшша». Яго надрукавалі і пачалі друкаваць мае іншыя вершы. Рэдакцыя «Нівы» запрашала мяне на семінары ў Беласток, куды я ездзіў з Варшавы і пазнаў там многіх рэдактараў і карэспандэнтаў «Нівы» ды галоўнага рэдактара «Нівы» Георгія Валкавыцкага і іншых, такіх як Сакрат Яновіч, Яша Бурш. Сустрэў там Віктара Шведа, з якім вучыўся ў 1946 годзе ў 4-м класе Беларускай гімназіі ў Бельску-Падляшскім і даведаўся, што жывем мы ў Варшаве ў адным будынку ля вуліцы Лавіцкай. І пра тое, што ў Варшаве па вул. Сенатарскай паўстае аддзел БГКТ. Там я пазнаёміўся з Пятром Ластаўкам, які кіраваў прамыслова-гаспадарчым праўленнем «Бэтэска». Таксама з Юрыем Туронкам, Аляксандрам Баршчэўскім і многімі іншымі. Пры аддзеле быў дыскусійны клуб і гурток Беларускага літаратурнага аб'яднання, да якога я належаў. Праводзіліся аўтарскія вечары, на якіх аўтары чыталі свае творы. Прыходзілася і мне часам чытаць свае вершы. На свята пад ёлкай мой сын і мая дачка дэкламавалі беларускія вершы. У Беластоку ў рэдакцыі «Нівы» я браў удзел 28 чэрвеня 1958 годзе ва ўстаноўчым з'ездзе Беларускага літаратурнага аб'яднання «Белавежа». Калі б усё гэта расказаць, заняло б цэлы нумар «Нівы»!

**Міра Лукша:** — Ваша творчая дзейнасць і праца — які ўплыў мелі адна на адну?

**Дзмітрый Шатыловіч:** - Спачатку я не меў многа часу, каб прысвяціць яго творчай працы, бо меў многа працы ў «Энергапраекце» пры праектаванні аўтаматыкі ў электрастанцыях і цеплаэлектрастанцыях, такіх як Конін, Понтнаў, Турошаў, Астралэнка, Казеніцэ, Белхатаў, у цеплаэлектрастанцыях у Лодзі, Познані, Варшаве. На паўгода выслалі мяне на аўтарскі нагляд у Электрастанцыю ў Тузлу ў Югаславіі і на два з паловай года ў Бакара ў Індыю. У вольны ад працы час пісаў я вершы і высылаў іх у «Ніву», і яны друкаваліся не толькі ў «Ніве», а таксама ў «Беларускіх календарах» і альманахах, якія выдавала БГКТ. Часам іх друкавалі ў часопісах і кнігах у БССР. У 1959 годзе Галоўнае праўленне БГКТ выпусціла ў свет першы зборнік вершаў «Рунь», у якім надрукавалі чатыры мае вершы. У кніжцы «Беларускія пісьменнікі Польшчы», якая выйшла ў Мінску ў 2000 г., былі надрукаваны 9 маіх вершаў. Друкаваліся мае вершы і ў некаторых нумарах „Annus Abaruthennicus" і ў Нью-Йорку ў альманаху «Беларус 2010» і ў іншых кнігах. Калі я стаў пенсіянерам, больш часу мог аддаць літаратуры. Выдаў 14 зборнікаў вершаў на беларускай мове і 3 зборнікі вершаў на польскай мове. Пятнаццаты зборнік вершаў на беларускай мове ўжо друкуецца. Праграмная рада тыднёвіка «Нівы» выдала ў кнігах «У новай айчыне», «Пакаленне вайны» і «Час трывогі і надзеі» мае ўспаміны на беларускай мове ад 1926 па 1954 гады без гадоў 1943-1945. У Нью-Йорку ў альманахах «Беларус 2012», «Беларус 2013», «Беларус 2014», «Беларус 2015» надрукаваны мае ўспаміны з 1943-1945 гадоў. Успаміны 1943-1945 гадоў на польскай мове выйшлі ў 2016 годзе ў кніжцы „W labiryncie niewoli". У 2013 годзе «Czasopis» выдаў мае «Успаміны 1955-1988».

**Дзмітрый Фадзеевіч Шатыловіч** нарадзіўся 8 лістапада 1926 г. у вёсцы Чаромсе Гайнаўскага павета. Беларускі паэт, перакладчык. Заслужаны дзеяч культуры Польшчы, сябра Саюза польскіх літаратараў і ганаровы Саюза беларускіх пісьменнікаў. Выпускнік Беларускай гімназіі ў Бельску-Падляшскім (1946) і польскага Ліцэя імя Тадэвуша Касцюшкі ў Бельску-Падляшскім, Ленінградскага электратэхнічнага інстытута ў Ленінградзе (1953). Працаваў у энергетычным праектным бюро „Энергапраект" у Варшаве (1954-1989). Ад 28.12.1973 г. да 15.06.1974 г. быў на аўтарскім праектным наглядзе ў Электрастанцыі Тузла ў Югаславіі і ад 15. 03. 1986 г. да 11.09 1988 г. на аўтарскім праектным наглядзе ў электрастанцыі Бакара ў Індыі. Пасля выхаду на пенсію жыве ў Варшаве. Сябра літаратурна-мастацкага аб'яднання „Белавежа". Дэбютаваў на старонках „Нівы" ў 1957 г. Піша на беларускай і польскай мовах. Апублікаваў зборнікі вершаў: „Эцюды падарожжа", „Маё Падляшша", „Хвалі часу", „Вясёлка над імглою", „Струмені лёсу", „Асеннія промні", „Янтарныя віры", „Гронкі надзеі", „Ліхтар уражанняў", „Подых хвілін", „У ціхай лагуне", „Забытая паляна", „Вясновы гай", „Сляды на Зямлі" і ў перакладзе на польскую мову „Rezonanse pamięci", „Patos jesienny" і „Echa wrażeń". У кнігах „У новай айчыне", „Пакаленне вайны", „Час трывогі і надзей", выдадзеных „Нівай" у Беластоку, сабраны яго ўспаміны да 1955 года. У 2014 г. у Беластоку выдадзены „Успаміны 1955-1988" Дзмітрыя Шатыловіча, якія друкаваліся ў „Часопісе". У альманахах „Беларус 2010", „Беларус 2012" і „Беларус 2013", якія выйшлі ў Нью-Йорку, надрукаваны яго вершы і ўспаміны з 1944 і 1945 гадоў. Вершы яго надрукаваны ў дзясятках „Беларускіх календароў" БГКТ, у беларускіх альманахах „Белавежы", у „Тэрмапілах" і ў „Annus Albaruthenicus".

**Міра Лукша:** — Падарожжы — Ваша мара, прафесія і натхненне.

**Дзмітрый Шатыловіч:** — Вольныя ад працы дні я праводзіў у падарожжах. Я, як ветэран вайны, меў у год сорак дзён водпуску. Аб'ехаў і пабачыў многа цікавых куткоў Польшчы, а пасля іншых краін. Прыватна паехаў з жонкай і дзяцьмі ў Румынію ў Мамаю, у Балгарыю на курорт «Залатыя Пяскі», пасля ў Бялград і ў Дуброўнік, з жонкай праехаў Турцыю, Грэцыю, Венгрыю ды Харватыю. З жонкай і дачкой быў у Парыжы. Аб'ехаў поўдзень Францыі, бо атрымалі мы запрашэнне з-пад Альбі ад жончыных сваякоў. У 1975 годзе я закончыў курс замежных гідаў і турбюро «Орбіс» давала мне два разы ў год быць гідам многіх цікавых замежных экскурсій. Я аб'ехаў па Грузінскай ваеннай дарозе з Тбілісі да Арджанікідзе (сёння Уладзікаўказ), лятаў самалётам з Масквы ў Баку і з Баку ў Эрэван, з Варшавы ў Ташкент, з Ташкента ў Самарканд, з Самарканда ў Бухару, з Бухары ў Алма-Ату і з Алма-Аты ў Маскву... Быў два разы на Крыме ў Ялце, аглядаў палац султана ў Бахчысараі, таксама быў у Сочы, Сухумі і Адлеры, Піцундзе і іншых курортах Каўказа. З Адэсы ляцеў самалётам у Кішынёў, з Кішынёва ў Кіеў. У Індыі таксама пабачыў дзясяткі цікавых гарадоў, як Варанасі, Бамбей, Калькута, Дэлі, Агра. У Непале агледзеў Катманду. Усё я напісаў у сваіх «Успамінах 1955-1988» і друкаваў у «Czasopisie». Аб маіх прыгодах у Індыі выйшлі ўжо мае ўспаміны ў Нью-Йорку ў альманаху «Беларус 2016».

**Міра Лукша:** — Увесь час працуеце, не складваеце рук і пяра; цяпер і на камп'ютары! Якія ў Вас планы?

**Дзмітрый Шатыловіч:** — У друку мой пятнаццаты зборнік вершаў «Водгукі жыцця». Не раблю яшчэ планаў на будучыню, бо ў 90 гадоў цяжка планаваць. Калі буду адчуваць сябе здаровым, дык падумаю, што яшчэ магу зрабіць!

**Міра Лукша:** — Віншуем Вас з адметным юбілеем і жадаем перш за ўсё крэпкага здароўя, сямейнага шчасця і радасці ды непагаснага натхнення!

**Распытвала Міра ЛУКША**





# У кожнага сваё кіно

Дзеньпачаўся кепска. Неяк так нервова, незразумела. Па гарадскім аўтобусе ў спадзяванні злавіць зайца як шалёныя лёталі кантралёры і настрою не паляпшалі. Надвор'е са свайго боку таксама не абяцала нічога добрага, а заказаны на Свіслач аўтобус напалову аказаўся пусты...

У Свіслачы ладзілася традыцыйная акцыя ў гонар паўстанцаў 1863-1864 гадоў і ўсіх палеглых за Беларусь. Яна ладзіцца штогод ужо больш чым чвэрць стагоддзя і мноства патрыётаў з усіх куткоў Беларусі наведалі гэты гарадзенскі раённы цэнтр, каб аддаць даніну павагі сваім гераічным продкам і, падыхаўшы вольным паўстанцкім паветрам на ўскрайку Белавежскай пушчы, адчуць паўстанцкі дух і гонар за тых, чые імёны ўзвялічылі і ўзмацнілі беларускую нацыю.

Тым больш было дзіўна, што на месцы ў заказаным на Свіслач аўтобусе не прэтэндуюць па тры чалавекі на кожнае... Як было некалі...

Частка патрыётаў абгрунтавала гэта тым, што ў іх бракуе грошай на аўтобус... Нібыта ў паўстанцаў паўтара стагоддзя таму грошай на квіток, каб даехаць да атрадаў Каліноўскага было занадта. Але яны неяк дабраліся да таго месца, дзе зараз стаяць крыжы на славутых магілах і моўчкі сочаць, як удзячныя нашчадкі знаходзяць магчымасць, каб ушанаваць іх памяць...

А вось маладыя гарадзенцы не змаглі. Хоць многія з іх хваляцца, што паўсвету здужалі аб'ездзіць аўтастопам... І ўсё неяк міма Свіслачы...

Яшчэ частка свядомых беларусаў засталася на прагляд вельмі важных фільмаў пра вышыванкі суседзяў. Я таксама хацеў паглядзець гэтыя фільмы. Сапраўды, вельмі люблю і суседзяў, і вышыванкі. Ну, але арганізатары выбралі для прагляду менавіта гэты дзень, калі галасы нашых гераічных продкаў, што аддалі свае жыцці за свабоду і годнасць, клічуць жывых наведаць месцы іх пахавання і баявой славы.

Цікава, ці будуць гэтыя аматары кінапраглядаў з гонарам расказваць тым суседзям, або сваім дзецям, што адмовіліся ад свайго нацыянальнага свята, бо хацелі паглядзець кіно?!

Гарадзенскія журналісты таксама мала не зацікавіліся галоўнай публічнай акцыяй года на Гарадзеншчыне. Прынамсі ў аўтобусе не было аніводнага. Яно то зразумела, што больш бяспечна ў цёплым памяшканні зрабіць рэпартаж пра веліч суседзяў, чым рызыкаваць свабодай і здароўем, адстойваючы сваю.

Калі гаварыць пра журналістыку ў Гародні, то тут многа гадоў запар нават працавала школа маладога журналіста, праз якую прайшло безліч акулаў пяра. Такі вось парадокс беларускага жыцця. Школа журналістаў і яе выпускнікі ёсць, а журналістаў няма...

Зрэшты, падумалася мне, навошта лічыць аўтобус напалову пустым. Можна ж лічыць яго напалову поўным. І настрой адразу падняўся. Дзень імгненна стаў прыгажэйшы. Нават надвор'е палепшылася.

Яшчэ харашэй стала, калі ў аўтобусе пабачыў сваіх старых правераных сяброў. Гэтыя не падвядуць. Ні цябе, ні сябе, ні продкаў...

Ну, а калі ў Свіслачы ўбачыў, што туды прыехала людзей больш чым з двух дзясяткаў беларускіх мясцін, зразумеў, што дарма нерваваўся. Каму гэта трэба, той прыедзе. Святое месца пустым не бывае.

Акцыя як заўсёды прайшла годна і велічна. Луналі бел-чырвона-белыя сцягі, гарэлі знічкі, гучалі прамовы. Грымела славутае «Жыве Беларусь!!!» — «Жыве!!!» — адказвалі людзі, раха і далягляды ў Свіслачы, Якушоўцы і Белавежскай пушчы.

Вечная памяць героям!!! Гонар і слава!!!

Напрыканцы як заўсёды лес, бардаўская гітара, зычлівы пачастунак мясцовых арганізатараў...

І ўжо не маглі сапсаваць настрою ні міліцыянты, што спынялі аўтобус, ні іншыя спецслужбы, што кожнага ўдзельніка акцыі здымалі на відэа, каб падкрэсліць, што ўшанаванне славутых беларусаў не пройдзе непакараным...

Кары яшчэ наперадзе. Пратаколы, суды і апантаная бяссільная злоба тых, каму так і не ўдалося зламаць беларускага духу...

Я, гледзячы на гэтых кінааператараў, падумаў, што хоць гэтыя зафіксуюць важнасць падзеі. Вось і яны аказаліся на нешта патрэбнымі. І некалі нехта дастане гэтыя фільмы з іх архіваў і засведчыць, што беларусы ніколі не забываліся пра сваіх герояў.

Такое вось кіно. Яно, як гаворыцца, у кожнага сваё.

**Віктар САЗОНАЎ**

# Смех Маліноўскага



Памыляцца — справа ўласцівая чалавеку. Гэта відавочна. Чалавек не з'яўляецца дасканалым, на жаль. Хаця хто гэта ведае, як яно ёсць. Яшчэ, магчыма, ніхто гэтага не вызначыў. Дзеля парадку, дазволю сабе груба абвесці вызначэнне «дасканалага — здзейсненага чалавека». Калі хто-небудзь больш менш такі як і я, безумоўна, можа лічыць, што ён знаходзіцца на шляху да дасканаласці. Я пішу гэта без напышлівасці і пустой ганарлівасці. Лаяльна таксама кажу, што я магу ў гэтым плане памыляцца. Мабыць, што на самой справе я — поўная супрацьлегласць такой дасканаласці, да чаго прызнаюся з пакорай. Ну так, але ж трэба пачаць з чаго-небудзь.

Я пачаў ад сябе, але кожны можа спасылацца на свой уласны прыклад. Вось, хаця б прэзідэнт Беларусі — ці змяшчаецца ён у рамках сканструяванага мною вызначэння дасканалага чалавека? Можа! Я кажу пра гэта адкрыта, без круцельства, што таксама паказвае, што я не напышлівец. Я рашуча адмяжоўваюся ад гэтай заганы. Прынамсі, у думках. Пэўнасці, аднак, адносна да гэтага не маю. Гардыня любіць прыхавацца за маскай сціпласці. Хіба гэта не так, калі гаворка пра спадара Лукашэнку? Або пана Качынскага?

У жыцці па-рознаму са мной бывала. Здаралася так, што я не меў рацыі ў ацэнцы фактаў і людзей, або сваіх уласных паводзін. Награшыў, верагодна, я даволі шмат і, магчыма, яшчэ награшу. Прызнаюся, што мне лягчэй прызнацца ў сваіх памылках перад людзьмі, чым перад самім сабою. Вось у гэтым сам вінавачу сябе: што дазваляю сваім «памылкам» заставацца ў несвядомасці, хоць я адчуваў іх «прысутнасць» балюча і рэальна. Я лічыў за лепшае аб іх не ведаць. Гэтак было лягчэй. У рэшце рэшт, аднак, я на гэта адважуся — не без пякучага сораму, на самой справе. Веданне пра самога сябе нялёгкае. Дарэчы, кожны раз я змагаўся са спакусаю замесці свае памылкі пад праславуты дыван. Перамагала, аднак, пакора перад сваімі слабасцямі і непахіснае імкненне пераадолець іх у сабе. Не заўсёды пераможная... Гэта не мяняе майго пераканання, што станоўчыя якасці чалавечага характару, такія як сціпласць, пакорлівасць, сумленная ацэнка сваіх паводзін, гэта элементарныя кампаненты дасканаласці чалавека. Тым не менш, усё ж выкажу здагадку, што і тут я магу памыляцца.

Здараюцца «памылкі» з трагічнымі наступствамі — аб іх сёння — ані слова! — ці смешныя. Апошнія дазвольце мне праілюстраваць адным дасціпным анекдотам. Дзеянне адбываецца на чыгуначным вакзале. Уздоўж вагонаў цягніка, які праз момант ад'едзе, бяжыць маленькі чалавечак у капялюшыку і кліча нейкага Кавальскага: «Кавальскі! Кавальскі! Пакажы сябе! Дзе ты!?». Вядома, яго паводзіны выклікаюць у пасажыраў зразумелую цікаўнасць. Адзін з іх адчыніў акно і высунуў галаву. «Кавальскі, так!?» — уцешыўся чалавечак у кацялку. Не чакаючы адказу, уляпіў пасажыру шчырую аплявуху. У той час цягнік крануўся... Збянтэжанасць пасажыраў, што ехалі са збітым дзядзькам, была бязмежная, калі яны пачулі яго па-сапраўднаму шчыры смех.

— Ну і ад чаго вы так цешыцеся, пан Кавальскі?! — здзівіўся нехта. — Мусілі вы шмат чаго натварыць, калі вам так ударылі ў твар!

— Ды ж не Кавальскі я, мяне завуць Маліноўскі! — адказала ахвяра, качаючыся ад смеху. — А цягнік ужо едзе, і я не змагу патрабаваць кампенсацыі.

Ну, каб кожны называўся Маліноўскі і меў такое як ён пачуццё гумару!

Чалавечыя памылкі адзначаны этычнымі наступствамі. І хай толькі этычнымі! А што, калі пытанне аб тым, ці дзейнічаў я добра ці кепска, правільна ці няправільна супраць кагосьці бо чагосьці, мае таксама грамадскае вымярэнне? Вядомы польскі акцёр, калісьці званы «Фараонам», калі высветлілася, што ў мінулым даносіў «бяспецы» на сваіх калег, патлумачыў, што гэта былі толькі памылкі маладосці. Сёння ён кажа пра сябе: «Я іншы чалавек. Я не адчуваю сябе вінаватым за таго маласоса. Гэта чужы для мне чалавек». Ну, можна і так. Раз быць Кавальскім, іншы раз Маліноўскім. Прытым у той жа адной асобе. Асабіста я сустрэў некалькі іншых падобных яму. Сёння ўсе яны дбайна служаць «добрай змене». Учора таксама служылі, ды не менш ахвотна. Толькі што іншай змене. Заўсёды той добрай. Добрай для іх. Ну і што, што пячэ мне шчака, калі пра іх думаю. Ну хай іх там! Я смяюся над гэтым.

**Міраслаў ГРЫКА**



Сваімі вачыма

# Грошы мовы маюць

Ой, багатым на падзеі быў канец кастрычніка ў нашай падляшскай прасторы. Прэзідэнт Польшчы Анджэй Дуда на мінулым тыдні нанёс візіт у Гайнаўку і Сямятычы, дзе ў размовах з самаўрадаўцамі і ў непасрэдных сустрэчах з мясцовымі жыхарамі ўслухоўваўся перш за ўсё ў праблемы эканамічнай адсталасці Усходняй сцяны. Больш дакладна і падрабязна, пра тое, аб чым канкрэтна ішла гаворка і якія былі дадзены абяцанні ў ходзе прэзідэнцкай паездкі напішам праз тыдзень. У маёй памяці застаецца пакуль вобраз, калі прэзідэнт традыцыйна ў Свята-Троіцкім саборы не толькі ставіць свечкі, як і ягоныя папярэднікі, але і на каленях моліцца ў прысутнасці настаяцеля прыхода а. Міхаіла Негярэвіча. Ну і словы пра нашу, беларускую, прысутнасць на Гайнаўшчыне. Дарэчы, у той жа час у Мінску з візітам пабываў віцэ-прэм'ер Матэвуш Маравецкі, які з Аляксандрам Лукашэнкам і беларускім урадам гаварылі пра ўзаемныя эканамічныя кантакты і грошы. Так што найважнейшыя дзяржаўныя асобы Польшчы апынуліся ў адзін дзень у рэальнай беларускай прасторы — ад Гайнаўкі да Мінска.

Ужо ад нейкага часу польскае і беларускае міністэрствы замежных спраў даволі інтэнсіўна гандлююць палітычнымі і грамадзянскімі справамі, ад якіх напэўна ніхто не стане больш дэмакратычным. Наадварот, кволыя незалежныя структуры беларускага грамадства могуць трапіць у вакуум забыцця. Як гандляваць, дык гандляваць — ці то бульбай, ці дэмакратычнымі ідэямі. Важнае, што дамаўляемся. Дзе сякуць дровы, там і трэскі лятуць.

Не горшымі палітыкамі захацелі быць і нашы падляшскія самаўрадавыя ўлады, якія ў якасці першых турыстаў перасеклі мяжу ў так нашумелым, гэтак званым бязвізавым руху для замежнікаў па Аўгустоўскім канале і чатырох раёнах Гарадзеншчыны і самой Гародні. Сам візіт і спосаб, у які ўсё праходзіла з адкрываннем гэтак званых турыстычных цэнтраў, часам змяшчала ў сабе нешта з англійскіх камедый. Праўду кажучы, ніхто да канца не ведае, як практычна мае выглядаць рэальнасць бязвізавых працэдур. Але ўсе дакладна ведаюць і хочуць з гэтых жа патэнцыйных турыстаў выціснуць як найбольш грошай. Такое спадзяванне і падыход да справы можа абярнуцца ў некарысць самой ідэі. Мне асабіста злосць узяла, мякка кажучы, на гэтак званы пашпарт турыста, друкаваны толькі на трох мовах: расейскай, польскай і англійскай. І калі наш рэдакцыйны гарадзенскі сябра Уладзімір Хільмановіч звярнуўся ў абласны выканаўчы камітэт з патрабаваннем надрукаваць такія дакументы і на беларускай мове, то ў адказ чыноўнікі аблвыканкама напісалі, што **«управление спорта и туризма Гродненского облисполкома считает нецелесообразным издание паспорта туриста на белорусском языке»**. Да напісанага хочацца чыноўнікам сказаць толькі адно: так вы перасякаеце межы ... але нацыянальнай дэгенэрацыі. А вобраз русіфікаванай Гарадзеншчыны не з'яўляецца прываблівым для любога турыста. Для нас, беларусаў Беласточчыны ці Літвы, жывучых з сабой па-суседску, такі падыход — гэта маральная аплявуха. Як можна мець такі падыход да тых жа патэнцыяльных турыстаў — беларусаў, грамадзян іншых краін. Калі не ведаеш, як пакараць чалавека, то найлепей адабраць яму розум. Бо такія пашпарты і ўсе астатнія русіфікацыйныя прыёмы гэта чарговыя крокі да таго, каб канчатковага апынуцца ў гэтак званым рускім міры. Калі такія паводзіны безнацыянальных клеркаў у Беларусі выклікаюць абурэнне, то прамацыйная палітыка Падляшскага ваяводства да беларусаў на расейскай і польскай мовах прымушае паставіць пытанне пра існаванне здаровага розуму кіраўнікоў нашага ваяводства. Бо калі паважаем суседзяў і лічым іх партнёрамі, дык дапамагаем ім таксама перамагаць і іхнія праблемы. А так бяздумна запрашаеце рускі мір да сябе ў хату. Да нас, на Падляшша! Самаўрадавыя палітыкі не заўважылі, калі за ўмоўныя супольныя еўрыкі сталі яны заложнікамі лукашэнкаўскіх інтарэсаў, а не польска-беларускіх спраў і грамадзянскіх патрабаванняў. Таму хачу і нагадаць, што грошы часам смярдзяць і свае мовы маюць.

**Яўген ВАПА**



# На Падляшшы восень заўсёды бардаўская

**Гэта, несумненна, музычнае свята для аматараў песні і аўтарскай паэзіі. На працягу дваццаці трох гадоў фестываль стаў настолькі вялікім і чаканым, што часам цяжка ўзгадніць штодзённыя справы з усімі музычнымі прапановамі арганізатараў. У часах «цемры» гэта быў адзін з тых фестываляў, дзе можна было паслухаць больш амбітную творчасць. Пасля дваццаці трох гадоў нічога ў гэтым плане не памянялася. «Бардаўская восень» надалей аб'ядноўвае выдатных музыкаў і ўражлівую аўдыторыю.**

З 27 па 30 кастрычніка на Падляшшы прайшоў XXIII фестываль «Бардаўская восень». За чатыры дні фестывалю аматары аўтарскай песні мелі магчымасць прыняць удзел у некалькіх канцэртах, як добра вядомых і папулярных бардаў, так і маладых, якія толькі што ставяць першыя крокі на сцэне. Першыя гукі «Бардаўскай восені» прагучалі ў арлянскай сінагозе. Тут выступіў, пасля гадоў адсутнасці, Лявон Вольскі. Яго выступ для аднаго з членаў журы Міхала Анемпадыстава быў вызначальным пры ацэнцы ўдзельнікаў конкурснай часткі.

— Я захапляюся песнямі Лявона Вольскага. Тэкстамі ягоных песень, яго манерай выканання, тым як ён трымаецца і дакладна выбудоўвае эмацыйную прастору сваіх песень, — адзначыў Міхал Анемпадыстаў. — Там не было ніводнай памылкі. Усё абсалютна годна, шчыра пры гэтым ён жа гаворыць пра складаныя тэмы, дзе лёгка скаціцца ў пафас, альбо ў сентыментальнасць. Вось ён вытрымоўвае і гэта для мяне тое, да чаго варта імкнуцца. Як ён гэта робіць, тое абсалютна не мае значэння. І ў гэтым сэнсе мы чакаем таго ад маладых музыкантаў. Вось гэтая дакладнасць, выверанасць — іх не латва навучыцца, а яны павінны аднекуль знутры з'явіцца, выверная канцэпцыя ўсяго твора і яго рэалізацыя на сцэне.

На самой справе цяжкая задача стаяла перад журы: Касяй Камоцкай, Міхалам Анемпадыставым і Зміцерам Вайцюшкевічам. Ім трэба было ацаніць адначасова маладых людзей, якія выступалі з песнямі на словы беларускіх класікаў, і тых, якія прэзентавалі свае аўтарскія тэксты. Можна было пачуць тых першых, як і другіх. Аднак найбольш захаплялі аўтары, якія спявалі свае тэксты, пад якія скампанавалі ўласную музыку — бардаў новага пакалення.

— Для мяне бардаўская песня гэта ў першую чаргу паэзія. Я сёлета чула вельмі добрыя тэксты і вельмі глыбокія алегорыі — гэта тое, што трэба слухаць. Ёсць шмат музыкі, тэкстаў, якія ідуць у папулярны бок. Мы хацелі вылучыць тыя больш складаныя. Магчыма нехта іх «пачуе», заўважыць, — сказала Кася Камоцкая. — Вядома, з'яўляюцца нейкія наватарскія спробы, але гэтыя маладыя не адрозніваюцца надта ад нас дваццаць гадоў таму. Добрая песня заўсёды актуальная.

З трыццаці ахвотных выступіць журы запрасіла на фестываль адзінаццаць калектываў, якія можна было пачуць у пятніцу на сцэне Бельскага дома культуры. Сёлета і Падляшша мела сваю рэпрэзентацыю: бельскі гурт «Пэрцэпцыя» і гайнаўскі «Давід Шымчук Бэнд». Лаўрэатамі сталі гурт з Падляшша „Пэрцэпцыя", Міхаіл Рубін і гурт „Сон-трава". Гурт „Пэрцэпцыя" атрымаў таксама прыз глядацкіх сімпатый. Магдалена Маліш і Міхал Зіноўчык — ліцэісты бельскага «беларуса» — вельмі спела ставяцца да сваёй творчасці.

— Я сама напісала тэксты, Міхал апрацаваў музыку, — адзначыла Магда. — Думаю, што яны вельмі асабістыя. Моўным бокам вершаў, якія былі пісаны зразу на беларускай мове, паклапаціўся наш дырэктар Андрэй Сцепанюк. Ён таксама заахвочваў і падбадзёрваў да выступу на сцэне «Бардаўскай восені». Дзякуючы гэтым вылучэнням я зразумела, што музыка, у тым ліку беларуская, заўсёды будзе ў маім жыцці. Перш за ўсё як запал. Таму не хацела б яе трактаваць як сродак, дзякуючы якому можна зарабіць грошы.

Бардаўская восень гэта своеасаблівае свята групы музыкаў, якія адначасова з'яўляюцца аўтарамі, кампазітарамі і выканаўцамі ўласных твораў. У аўтарскай песні, як у ніводнай іншай, раскрываецца больш поўна асоба творцы, яго светапогляд, філасофія жыцця, свет уласных перажыванняў і вопыт перажытага. Аўтарская песня з'яўляецца — а прынамсі павінна быць — найбольш асабістым праяўленнем творцы, яго спосабам камунікацыі са светам. Ён выбірае дзеля гэтай мэты найбольш адэкватную мастацкую форму і бярэ за гэта на сябе поўную адказнасць. Вельмі асабістыя адносіны да музыкі мае таксама Міхаіл Рубін, які з рук журналісткі Яны Запольскай атрымаў узнагароду ад Беларускага Радыё Рацыя. Музыка прызнаецца, што хаця ў размовах з людзьмі заікаецца, сцэна з'яўляецца той прасторай, якая забірае ўсе абмежаванні.



Гранд-пры арганізатараў: гурт „Сон-трава"



Узнагарода беларускага радыё « Рацыя»: Міхаіл Рубін



Прыз глядацкіх сімпатый і Бельскай Кааліцыі атрымалі: (справа) Магдалена Маліш і Міхал Зіноўчык – гурт „Пэрцэпцыя"

— Магчыма для некаторых будзе нечым дзіўным, але на сцэне я адчуваю сябе найбольш камфортна, — сказаў Міхаіл Рубін. — Застаюся толькі я і гітара. Напэўна перамога на гэтым выключным фестывалі ўжо выклікала нейкія рэфлексіі. Я — аўтар трох зборнікаў расейскамоўных вершаў. Спяваю свае тэксты. Цяпер, калі выйдзе чарговы, думаю, што ўжо на беларускай мове.

Варта адзначыць, што хаця бардаўская восень здзяйсняе культуратворчую мэту, таксама ў ненахабны спосаб папулярызуе беларускую мову.

— Цешыць тое, што фестываль аб'ядноўвае беларусаў з Падляшша і з Беларусі. Цешыць таксама, што ён цікавы маладым творцам, — адзначыў арганізатар фестывалю Ігар Лукашук. — У канцы цешыць, што нават тыя выканаўцы, якія спяваюць на іншых мовах, часта пішуць беларускамоўныя тэксты адмыслова пад фестываль. Самае важнае тое, што шмат хто пры беларускасці застаецца. Гэта адна з мэт фестывалю, якая намі рэалізуецца даволі паспяхова.

На заканчэнне варта дадаць, што «Бардаўская восень» — апрача серыі канцэртаў — гэта таксама старанна падрыхтаваныя рэкламныя матэрыялы, прафесійныя прэс-рэлізы і зарэгістраваныя, у тым ліку Радыё Рацыяй, якасныя запісы канцэртаў. Гэта аснова, таксама ў супрацоўніцтве па лініі арганізатар — СМІ. Няшмат фестываляў (якіх асновай з'яўляецца песня) запісваюць усе канцэрты. Рэдка таксама здараецца так стараннае і падрабязнае інфармаванне пра фестываль, на самой справе апрацаваныя арганізатарамі матэрыялы застануцца ў дамашніх, прыватных архівах і інтэрнэце. У любы час будзе можна да іх вярнуцца, адслухаць запісы і ўспомніць сабе ўсё, што адбывалася, вярнуцца да суправаджаючых іх эмоцый.

**Тэкст і фота Уршулі ШУБЗДЫ**

# XXIII Асеннія сустрэчы з беларускім фальклорам

Гісторыя Асенніх сустрэч з беларускім фальклорам доўгая і спачатку не ладзіліся яны штогод. Покі сталі пастаянным беларускім мерапрыемствам у Чыжах, арганізавалі іх у Курашаве, Чыжах, Шастакове, Койлах і Кленіках. Асеннія сустрэчы з беларускім фальклорам і іншыя беларускія музычныя мерапрыемствы ў Чыжоўскай гміне маюць сваё ўздзеянне на фармаванне беларускай нацыянальнай свядомасці жыхароў гміны. У гміне дзейнічаюць тры беларускія калектывы. Сустрэчы з беларускім фальклорам — вельмі добрая нагода паказацца перад сваёй публікай. Падчас XXIII Асенніх сустрэч з беларускім фальклорам, якія 23 кастрычніка 2016 года ў прыгожай вясковай святліцы ў Чыжах наладзілі войт Чыжоўскай гміны Юры Васілюк і Гмінны асяродак культуры ў Чыжах, адбылася прэзентацыя неапрацаванага мясцовага фальклору, апрацаваных народных песень і сучасных эстрадных песень. Пашанцавала з надвор'ем у гэты дзень, не было холадна і мерапрыемства атрымалася шматлюдным.

— Наша асенняе мерапрыемства мы пачалі ладзіць у 1986 годзе, калі былі яшчэ іншыя палітычныя ўмовы для культурнай дзейнасці. Выступалі ў нас калектывы з Беларусі, Украіны, Літвы і Арменіі. Першапачаткова назвалі мы нашу імпрэзу Асеннія сустрэчы з фальклорам, на Фестывалі «Беларуская песня», а некалькі гадоў таму выступілі ў конкурснай частцы «Бардаўскай восені». Сёлета ў Чыжы прыехалі дзве сястры, якія цікава выступілі з дзвюма дочкамі і атрымалі вялікае прызнанне публікі.

Самым маладым калектывам у Чыжоўскай гміне з'яўляецца вакальны калектыў з Мора, які дзейнічае з вясны гэтага года і цікава запрэзентаваўся перад публікай. Раней Мора было расспяванай вёскай, з вялікай колькасцю моладзі, а зараз жывуць там перш за ўсё старэйшыя жыхары і менавіта яны заснавалі вакальны калектыў.

— Мы з мужам раней выступалі ў калектыве «Верасы» з Чыжоў. Мы рашыліся заснаваць свой калектыў у Моры, які хочам назваць «Кнігаўкі». Нават стварылі мы аўтарскую песню на сваёй мове пра наш калектыў. Мы выконваем песні, якія пасля вайны спяваліся ў нас на мясцовым дыялекце і на беларускай і расійскай мовах, а спісалі іх многа, між іншым ад жанчыны з Карыціскаў. У нашым калектыве выступае 5 чалавек, але адна жанчына не прыехала з-за жалобы, а іншая выехала цяпер і таму мы тут спявалі ўтраіх і гаварылі прымаўкі. Раней мы ўжо выступалі ў Ляневе, Моры, Койлах і Орлі. Сёння ў Чыжах цікавае мерапрыемства.

нікі трох пакаленняў, жанчыны і мужчыны ў розным узросце. Стварылі мы нават невялікую капэлу, са скрыпкай, гітарай, акардэонам і тамбурынам, якая састаўляе акампанемент спевакам. Выступае ў нашым калектыве больш за 10 чалавек. За нашы і гмінныя сродкі мы пашылі спадніцы і блузкі, а за грошы з рэалізаваных намі праектаў мы купілі боты і выканалі галаўныя ўборы. Зараз выступаем у прыгожых аднолькавых касцюмах. За 4 гады дзейнасці запрэзентаваліся мы ўжо

Мужчынскі калектыў «Хутар» з Гарадка выступіў займальна, заспяваў дадатковую песню і сыходзіў са сцэны пры бурных апладысментах публікі. Спадабаўся сабраным акампанемент на музычных інструментах і падборка прэзентаваных песень.

— Мы заснавалі наш калектыў «Хутар» 15 гадоў назад. Я іграў на забавах у сямідзясятых гадах. Мы выконваем даўнія песні ў новай апрацоўцы і новастворныя песні. Заспяваем славутую «Беларусачку» і агульнавядомую «Польку беларускую», будзем спяваць таксама песні на словы нашых паэтаў, — сказаў яшчэ перад выступам Янка Карповіч, заснавальнік і арганізацыйны кіраўнік «Хутара».




■ Мужчынскі калектыў «Хутар» з Гарадка



■ Хор «Васілёчкі» запрэзентаваў сенакосны абрад

каля 70 разоў у 25 мясцовасцях. Падчас Асенніх сустрэч мы спяваем штогод і выступаем са штораз новым рэпертуарам. Зараз рыхтуем песні для кампакт-дыска, — сказала Ірэна Лукашук, музычны кіраўнік «Верасоў».

Яраслаў Бялькевіч з «Чыжавян» заявіў, што падчас Асенніх сустрэч з беларускім фальклорам іх калектыў заўсёды выступае на беларускай літаратурнай мове, а акампанемент на акардэоне састаўляе іх музычны кіраўнік Юра Ганевіч з Гродна. Беларускі хор песні і танца «Васілёчкі» Бельскага дома культуры займальна запрэзентаваў сенакосны абрад, які падрыхтавала тэатральны інструктар БДК Альжбета Фіёнік.

Генадзь Шмэт, музычны кіраўнік «Хутара» сказаў, што падабаецца яму рэпертуар, які пачуў у Чыжах, дзе побач апрацаваных народных песень прагучалі новыя беларускія творы. Выступіла ў Чыжах Дар'я Маркевіч-Красько, былая салістка калектыву «Знічка», што дзейнічае ў Гайнаўскім белліцэі. Вучыцца яна ў вышэйшай навучальнай установе ў Варшаве на спецыяльнасці вакалістыка. Выступае яна на беларускіх мерапрыемствах, бо такой нагоды ў сталіцы няма. На беларускай мове заспявала таксама Марта Адамюк з Чыжоў, якая раней вучылася спяваць у Студыі песні Гайнаўскага дома культуры. Беларускія народныя песні заспявалі калектыў «Рэчанька» з Козлікаў і яго салістка Люба Гаўрылюк. Сучасную беларускую музыку запрэзентаваў калектыў «Метро» з Гайнаўкі.

— Мы восенню выступаем тут штогод. Зараз рэдка іграем на забавах, але іграем на вяселлях і выступаем падчас беларускіх фэстаў, — сказаў лідар гурта «Метро» Данель Сакоўскі з Арэшкава.

Беларускія песні ў сваёй музычнай апрацоўцы цікава запрэзентаваў гурт «Retro Beats» з Гайнаўкі і яго салістка Анэта Снарская. Некаторыя члены гурта ігралі на забавах яшчэ ў васьмідзясятых гадах, калі беларускія песні заваёўвалі папулярнасць, дзякуючы славутаму калектыву «Дубіны» з Дубін.

— Я ў васьмідзясятых гадах з калектывам «Гельяс» іграў на вясковых забавах пад гукі беларускіх песень. Пазней стаў іграць у «Дубінах», разам з Пятром Скепкам, Андрэем Іванюком, калі спявала ў нас Галіна Якімюк, менавіта з Чыжоў. Тры гады назад мы заснавалі ў Гайнаўцы калектыў «Retro Beats», каб у вольны час рабіць тое, што любім. Каб выступаць на беларускіх мерапрыемствах, у рэпертуар уключылі мы таксама беларускія песні, з якімі выступім сёння, — сказаў Ян Крынскі.

якія пасля перайменавалі на Асеннія сустрэчы з беларускім фальклорам. Сталі мы карыстацца сродкамі Міністэрства ўнутраных спраў і адміністрацыі, прызначанымі на дзейнасць беларускай нацыянальнай меншасці. Сёлета запрасілі мы беларускія калектывы выступіць з неапрацаваным фальклорам, апрацаванымі народнымі песнямі і эстраднымі беларускімі творамі. Гэтыя апошнія выконвае перш за ўсё моладзь, — сказаў дырэктар Гміннага асяродка культуры ў Чыжах Юры Якімюк, які разам з вядучымі Паўлінай Паўлючук-Коська і Марыёляй Герман-Петручук прывіталі публіку і гасцей — павятовых і гмінных радных ды солтысаў з Чыжоўскай гміны.

— Асеннія сустрэчы з беларускім фальклорам — гэта падвядзенне вынікаў культурнай дзейнасці ў нашай гміне і актыўнай працы нашых вакальных калектываў, — заявіў войт Чыжоўскай гміны Юры Васілюк.

Асноўную публіку мерапрыемства саставілі жыхары Чыжоўскай гміны ў старэйшым і сярэднім узросце, маладыя асобы з малымі дзеткамі. Можна сказаць, што як сярод публікі, так і выступаючых, былі прадстаўнікі трох пакаленняў. «Трыо з Макаўкі» складаюць тры сястры родам з Макаўкі Нарваўскай гміны, якія спяваюць нашы фальклорныя песні. Выступаюць яны на беларускіх мерапрыемствах, дабіваліся поспехаў




■ Вакальны калектыў з Мора

Нам патрэбны яшчэ акампанемент на акардэоне і тады мы маглі б выступіць з больш багатым рэпертуарам, — сказала кіраўнік вакальнага калектыву з Мора Вера Балтрамюк.

Сваім разнародным рэпертуарам зацікавілі публіку таксама калектывы «Чыжавяне» і «Верасы» з Чыжоў.

— Мы пачыналі як калектыў гуртка пенсіянераў і інвалідаў у Чыжах. Зараз у калектыве «Верасы» выступаюць прадстаў-

— У рамках Асенніх сустрэч мы раней паказвалі жніўны абрад. Сенакосны абрад мы развучвалі гэтым летам і выступалі з ім ужо 4 разы. Тэатральная група «Васілёчкаў» гэта 15 чалавек, у тым ліку ёсць асобы, якія выступаюць у тэатральным калектыве «Рэтра» Бельскага дома культуры, дзе мы вучымся тэатральным умеласцям, — сказала кіраўнік «Васілёчкаў» Ніна Бялецкая.

Тэкст і фота
**Аляксея МАРОЗА**

# Белагорскія франтавікі



**Белагорцы — малюсенькая вёсачка ў Крынскай гміне. З дзеда прадзеда жыве там сям'я Віталя Гарбуза, 1931 года нараджэння. Карыстаецца ён своеасаблівай, поўнай русізмаў беларускай мовай. У яго суседзяў з-за плота русізмаў нашмат менш, затое больш паланізмаў. Мову спадара Віталя сфармаваў досвед некалькіх пакаленняў продкаў: дзевятнаццацівечныя паездкі за хлебам у Маскву — тадышнюю сталіцу, іх маскоўская адукацыя ў пачатках дваццатага стагоддзя, шчыльныя сувязі з тымі, якія выбралі ў саракавых гадах дваццатага стагоддзя на месца жыхарства савецкую Беларусь. Русізмамі таксама запісаўся ў яго памяці перыяд Другой сусветнай вайны.**

**Пачатак вайны**

На пытанне пра пачатак Другой сусветнай вайны ў Белагорцах падае год 1941. Але, праўду кажучы, пачалася яна ўжо ў 1939 годзе мабілізацыяй у польскае войска, паколькі тады вёска знаходзілася ў межах Польшчы. Яшчэ ў тым жа 1939 годзе ў забеластоцкіх Лапах паставілі савецка-нямецкую мяжу. Многія мабілізаваныя ў польскае войска папалі ў няволю, у асноўным у нямецкую.

У 1941 годзе пачалася нямецка-савецкая вайна. Нашмат лепш тэхнічна абсталяваныя немцы вельмі хутка гналі рускіх салдат, бралі ў палон, пакідалі іх гаспадарам, між іншым, белагорскім.

**Саветаў успрымалі як сваіх**

Было гэта яшчэ пры жыцці бацькі Івана, які памёр у 1942 годзе.

— Прыйшоў да нас ваеннапалонны Салфон, татарын, — успамінае спадар Гарбуз, — змардаваны, апухлы ад голаду. Бацька выдзяляў яму ежу порцыямі, каб зразу замнога не з'еў і не памёр. Палепшыўся ён у нас, патаўсцеў. Аднойчы бацька сказаў яму пра крушынянскіх татараў. Салфон не мог дачакацца нядзелі, каб да іх схадзіць. Пабег ён туды і расчараваўся. Сказаў, што гэта не татары, а бязбожнікі, якія свініну ядуць. А татары ж толькі каніну елі. Сам еў усё, чым частавалі. Гаварыў, што палонным дазваляецца нават свініна.

Пасля немцы іх усіх пазабіралі. Што з імі зрабілі, ніхто не ведае.

**Агульна кажучы, немцаў баяліся**

Па Белагорцах нямецкія акупанты надта не круціліся. Сядзелі ў сваёй крынскай жандармерыі. Часам праязджалі праз вёску па дарозе ў недалёкія, неіснуючыя сёння Ямашы. Лавілі ямашоўскіх камуністычных падпольшчыкаў, якія дзейнічалі там пры санацыі.

— Немец не лічыў нас людзьмі, яму было ўсё роўна стары ты ці малы, — сцвярджае спадар Гарбуз.

У 1942 годзе дванаццацігадовы Віталь вазіў ужо малако ў Крынкі. Шмат малака з цэлага ямашоўска-белагорскага салэцтва. Выручаў адзінокую жанчыну, мужыка якой мабілізавалі ў 1939 годзе. Засталася з шасцігадовай Галяй і чатырохгадовым Мішам. Цяжка было пакідаць іх адных у хаце. Пры немцах бітоны былі цяжкія, саракалітровыя. Малако трэба было яшчэ ў малачарні з гэтага бітона выліць і перакруціць у цэнтрыфузе. Сапраўдны подзвіг для дванаццацігадовага хлапчука. Працавалі там тады дзве крынскія дзяўчыны, адна польская, другая руская — Жэня з Пагулянкі. Мама Віталя падарыла ім уласнаручна сатканыя капы, каб яны ўжо гэтае малако мяшалі. Віталь пачаў ужо хутчэй дахаты вяртацца.

**Самы страшны 1944 год**

Чырвоная Армія ўпарта рухалася ў напрамку зненавідный Нямеччыны. Іх крывавы, баявы шлях вёў, між іншым, цераз Белагорцы.

Акопы цягнуліся ад Ямашоў да цяперашняга белагорскага хваійняку. Трэба заўважыць, што тады ніякага лесу тут не было. Адно вялікае, шчырае поле. Глыбокія на два метры ямы капалі мясцовыя пад наглядам нямецкіх штыкоў. Немцы занялі таксама ўсе вышкі — назіральныя пункты. У Лапічах размясцілі сваю артылерыю, нацэленую на наступаючых ад лапіцкага боку рускіх.

Для жыхароў Белагорцаў набліжаліся самыя страшныя тры ваенныя дні.

Рускія разведчыкі сказалі ўцякаць, асцерагалі перад моцнымі баямі.

Мала каторая хата ў Белагорцах ацалела. Секлі жахліва. Фурманка за фурманкай перавозілі параненых і забітых у санітарныя пункты, якія знаходзіліся побач лініі фронту. Па-суседску з Белагорцамі, у Трэйглях, стаіць помнік, а дакладней, вялікі камень, з якога знялі мемарыяльную дошку. Прысвечаны ён генералу Віктару Жалудзёву. Кватараваў ён у хаце, якая стаяла на пачатку Белагорцаў, насупраць крыжоў. Рускія афіцэры прасілі спыніць фронт, таму што моцна па салдатах б'юць. Жалудзёў выйшаў з біноклямі перад хату і ўпаў ад кулі нямецкага назіральніка.

Не было тады яшчэ мяжы, таму белагорскія ўцякалі за раку Свіслач. Там было крыху спакайней. Маці і дзве сястры спадара Віталя пабеглі да сваякоў у сёння беларускія Паплаўцы. Астатнія схаваліся ў склепе Гарбузоў. Прытуліліся тут таксама ўцекачы з Ямашоў.

Ад галоўнай вуліцы склепа не відаць. Стаіць ён за вялікім панадворкам і гумнамі ў месцы, дзе калісь буйнеў сад татарскага генерала Карыцкага. Гэты будынак таксама генеральскі. Нізкі і вельмі доўгі з моцнымі сценамі з каменя і дахам. Усярэдзіне выкладзены добрай цэглай. З прасторнага калідорчыка з невялікімі вокнамі, цаглянымі паліцамі і моцнымі, дзеравянымі дзвярамі вядуць сходы ўніз у вялікую, прасторную залу з элегантным крыжовым скляпеннем. У сценах таксама функцыянальныя, цагляныя паліцы. Спадар Гарбуз тлумачыць, што зімой можна сядзець тут у майцы з кароткім рукавом, а летам атрымліваць асалоду ад здаровага холаду. Будынак дадаткова забяспечвае праваслаўны крыж, які вісіць на фасадзе звонку.

За грэбляй непадалёк склепа куля раніла аднаго хлопчыка, а мужчыну з Ямашоў абарвала нагу.

Віталю асколкі снарада цалкам парвалі нагавіцы. На шчасце выйшаў з гэтага амаль без шкоды. Якраз упускаў каня ў хлеў, за якім размясціліся рускія салдаты. Толькі што вярнуўся з недалёкіх Малых Азяран. Салдат з гарматай, якога там сустрэў, клікаў яго: «Пацан, садзісь да мяне, бо цебя немцы ўб'ют». Прывялі таксама кабылку-валацугу, знойдзеную азяранскім дзядзькам. Гарбузовага каня забралі немцы пры адступленні.

Рускія перамаглі, але ў гэтых страшных, трохдзённых баях страцілі безліч сваіх салдат.

— Я паўтараю гэта сваім дзецям і вам скажу, — асцерагае спадар Віталь, — яшчэ надыдзе нейкая заматуха. Яна заўсёды прыходзіць да кожнага пакалення. Будзе вайна, толькі не ведаю, дзе той вораг. Можа вы ведаеце?

**Тэкст і фота Іаанны ЧАБАН**

# Паслядоўнасці запазычанасці

Польская пошта па дамове з Міністэрствам фінансаў абавязалася спаганяць з абанентаў няплату абанементу. Ад нейкага часу пошта пачала масава слаць даўжнікам напамінальныя пісьмы. Справы тых, хто адмаўляецца плаціць, перадае ў падатковую інспекцыю. А сумы запазычанасці немалыя. За апошніх пяць гадоў (з працэнтамі) трэба ў гэтым годзе заплаціць 1 585,25 зл. Ці няма на гэта ратунку? Юрыст Максіміліян Маркоўскі раіць, што калі атрымаем пісьмо з пошты, дастаткова пасласць у паштовае аддзяленне такую вось заяву: «W związku z otrzymanym pismem z UP nr (tu numer pisma) z dnia (data), na podstawie art. 73 KPA wnoszę o wydanie z akt sprawy uwierzytelnionych odpisów dokumentów, na podstawie których wysunięto wobec mojej osoby roszczenia zawarte w w.w. piśmie. Uwierzytelnione kopie proszę wysłać na mój adres pocztowy».

Пастановай Міністра транспарту ад 25 верасня 2007 года рэгістрацыя ўсіх тэлевізараў страціла важнасць у лістападзе 2008 года. З таго часу Польская пошта абавязана была ў тэрміне аднаго года надаць радыёпрыёмнікам і тэлевізарам індывідуальныя ідэнтыфікацыйныя нумары, аб чым павінна была паведаміць уладальніка прыёмніка. Калі не выканала гэтага абавязку, дык не мае юрыдычнай асновы да спагнання запазычанасці.

Справа ў тым, што Польская пошта ў мінулым несур'ёзна паставілася да пастановы Міністра транспарту і зараз не мае юрыдычнай асновы спаганяць запазычанасці, хоць лічыць, што абанент «ад страху» перад судовым выканаўцам заплаціць «даўгі». Закон павінен быць, аднак, шанаваны як грамадзянінам, так і дзяржаўнымі ўстановамі. Ніхто не мае права спаганяць запазычанасць за пяць гадоў без доказаў. Калі няма зарэгістраванага радыёпрыёмніка ці тэлевізара з пяцігадовай дакументацыяй, дык ніхто не дакажа абаненту, што ён карыстаўся прыёмнікам, тым больш — падатковая інспекцыя. Калі апеляцыя не дасць выніку, а падатковая інспекцыя пачне спаганяць несапраўдную запазычанасць, дык справу трэба неадкладна накіраваць у суд. Заканадаўства стане на нашым баку. Таму варта ў пасланым пошце адклíканні зрабіць паметку, што справа будзе накіравана ў суд. Ні пошта, ні падатковая інспекцыя не стане судзіцца з намі, з загадзя прадвызначаным пройгрышам.

# Прыбаўкі да кошту вады не будзе

Так рашыла прэм'ер-міністр Бэата Шыдла, а пацвердзіў на прэс-канферэнцыі прэс-сакратар урада Рафал Бахэнэк. Цэны ставак вады ў наступным годзе застаюцца на сёлетнім узроўні цэн. Першапачаткова ўрад прадбачваў, што пасля прыняцця новага «Права воднага», у адпаведнасці з еўрасаюзнымі патрабаваннямі, будзе створана новая ўстанова «Воды польске», якая дасць працу для трох тысяч чыноўнікаў, а кошт утрымання іх мелі апраўдаць павышаныя стаўкі на ваду, нават да 40 працэнтаў. У выніку павысіліся б рахункі за ваду і сцёкі, электраэнергію і цэны ўсялякага роду напояў. Пасля першых пратэстаў вытворцаў мінеральнай вады і водаправодных прадпрыемстваў вызначаны больш мяккія прыбаўкі да кошту вады. Але і гэта не супакоіла грамадскай супольнасці. Паніжаны кошт прыбаўкі, на думку ўрадавых экспертаў, не гарантаваў бы належнага ўтрымання трох тысяч працаўнікоў новастворанага ведамства «Воды польске». Такім чынам прэм'ер-міністр рашыла застацца пры сёлетніх стаўках да ўступлення ў сілу новага «Права воднага». **(УС)**

# Дэмаграфія Гайнаўскай гміны

Вясковая Гайнаўская гміна займае плошчу ў 293 квадратныя кіламетры — гэта 18% усяе паверхні Гайнаўскага павета. Пераважаюць у ёй лясы, якія займаюць 56% усёй тэрыторыі. Сельскагаспадарчых угоддзяў тут 37%. Гайнаўская вясковая гміна знаходзіцца па-суседску з Беларуссю. Мяжуе яна з пяццю гмінамі: Белавежскай, Дубіцкай, Чыжоўскай, Нараўчанскай і Нарваўскай.

Зараз у вясковай гміне ў 37 вёсках пражывае 3 993 асобы. Ніхто ўжо не жыве ў Нязнаным Бары. Дзесяць гадоў таму гміна налічвала 4 295 чалавек. Шчыльнасць насельніцтва — 13 чалавек на квадратны кіламетр. На 100 жанчын прыпадае столькі ж мужчын. Мужчыны, калі жэняцца, дык бяруць за жонкі маладзейшых ад сябе жанчын. Бываюць выпадкі, што нават на 10, а то і на 20 гадоў. У Гайнаўскай вясковай гміне пераважаюць беларусы — іх 66% ад агульнай колькасці насельніцтва, палякаў — 34%. Існуюць тры праваслаўныя парафіі: у Арэшкаве, Дубінах і Новым Беразове.

Да найбольшых вёсак належаць Дубіны — 784 жыхары, Арэшкава — 375, Новае Беразова — 274, Старое Беразова — 268, Навасады — 264, Махнатае — 198, Новае Корніна — 172, Пасечнікі-Вялікія — 113, Барысаўка — 108 і Дубічы-Асочныя — 102. Менш чымсьці сто жыхароў налічваюць Хітрая — 91 жыхар, Чыжыкі — 89, Рэпіска — 81, Трывежа — 76, Пасталова — 74, Пуціска — 68, Катоўка — 63, Барок — 46, Васількова — 45, Савін Груд і Сарочая Ножка — па 42, Бельшчына — 39, Тапіла — 37 і Звадзецке — 32.

Самыя малыя пасяленні гэта Буды-Лясныя (4 жыхары), Дубінская Ферма і Галякова Шыя (па 6 жыхароў), Скрыплева (14), Сахарэва (15), Пераходы (20), Лазіцы і Прагалі (па 23), Смаляны Садок (24), Чарлёнка-Лясная (25), Альховая Кладка (27) і Выгода (29). **(яц)**


Ганна Кандрацюк (zorka@niva.bialystok.pl)
www.e-zorka.pl

зорка
для дзяцей і моладзі



# Ці былі ў Бельску рыцары?

У шостым «а» класе, быццам і нічога не змянілася. За першай партай, як год раней, мы пабачылі Натальку Маркевіч і Паўліну Ёдлу. Дзяўчаткі, як год раней, рыхтаваліся да дэкламатарскага конкурсу «Паэтычнае трохгалоссе». У гэты раз яны прачыталі з памяці вершы Уладзіміра Карызны пра пеўніка і класнага старасту.

Як заўсёды, у класе хацелі ўсё ведаць:

— Czy pani jest z Białorusi? — спыталі мяне.

Дваццаць гадоў таму такое пытанне было б неадпаведнае. Асабліва ў такой школе як бельская «тройка», якую ў горадзе называюць «беларускай школай». Дзіўнае пытанне?

Праўда, часам пытанні пра тоеснасць узнікаюць у старэйшых класах.

Але ўсё пакацілася інакш, надзейна.

Шасцікласнікі, як аказалася ў ходзе сустрэчы, не патрабавалі перакладчыка. Яны не толькі ўсё разумелі, але яшчэ і жыва перажывалі. Вядома, для гэтага быў патрэбны аповед. Мы пачалі з бельскага замка, які падыходзіць да зорчынага цыкла «Замкі і палацы Беларусі».

Ці былі ў Бельску рыцары? Якія ворагі наязджалі горад? Чаму замак знік з гарадскога краявіду? Усе гэтыя пытанні можна асветліць у адной легендзе пра бельскі замак. Шасцікласнікі сказалі, што ў месцы, дзе сёння Замкавая гара, можна пачуць з-пад зямлі царкоўныя званы...

Тут мы дакрануліся да самай распаўсюджанай легенды, якую можна лічыць падляшскім брэндам. Наша



размова перасекла межы і мы павандравалі, разам з ніўскімі рэпартажамі на суседняе Палессе. Там найбольш распаўсюджаная легенда пра святыя азёры. У іх затопленыя замкі і цэрквы, часам у гэтых месцах б'юць званы.

— А вы гэта чулі? — спыталі ў класе.

— Каб пачуць такія гукі, трэба вельмі гэтага хацець. Мне расказалі людзі, якія таксама не чулі званоў. Легенда — гэта прыдуманая гісторыя. Ніхто дакладна ў яе не верыць. Гэта толькі ўказальнік, каб шукаць сапраўдную гісторыю.

Тут была магчымасць пашукаць мяжу паміж легендай і фактамі. Шасцікласнікаў найбольш захапіла справа індывідуальнасці. Індывідуальнасць нельга мяшаць з чыімсьці самалюбствам і нарцызмам, які назіраем на фейсбуку. Там усе чакаюць лайкаў і захаплення. Тым часам індывідуальнасць — гэта стан інтэлекту, які дае сілу, матывуе да развіцця. Каб адкрыць у сабе індывідуальнасць, трэба шмат працы.

З чаго пачаць?

З чытання кніжак і газет! Газеты даюць нам веды пра свет, а кніжкі развіваюць мову і ўяўленне. Тады зможам свабодна перасякаць межы фантазіі і фактаў, гуляць з прыдуманым зместам і адначасова захаваць здаровы розум. А самай чароўнай крыніцай ведаў пра нашу зямлю, замкі і рыцараў з'яўляецца беларуска-падляшская «Ніва», якая ў гэтым годзе адзначае 60-гадовы юбілей. Нашы сябры памяталі пра юбілей — яны грымнулі на поўныя грудзі «Многая лета»!

**ЗОРКА,**
фота Ганны Кандрацюк

Сільвія ГРЫКА
ПШ у Міхалове

## Свята дзядоў

Такое сумнае свята
У лістападзе адзначаем.
Дзень, у якім продкаў
успамінаем,
Свята поўнае таямніц,
Думак аб тых,
Якіх ужо не пабачым.
Ставім лямпачкі і кветкі,
Агонь вядзе вецер
У нам незнаёмы свет,
У неба яснае,
З якога паглядаюць на нас,
Людзі нам мілыя.

*Міра ЛУКША*

## *Маліна*

*Мелісея дочкі*
*Адрастэя і Іда*
*няньчылі на Крыце*
*Зеўса ў садочку.*
*У кустах бубкі рвалі*
*для Зеўса — малінкі*
*ў чырвань уфарбавалі*
*з царапін крывінкі.*
*Ад маліны Іды*
*з грэцкіх міфаў слаўных*
*маем сотні відаў*
*малінаў духмяных.*
*Ой, маліна ты чырвоная,*
*ягада прыгожая,*
*кожнага накорміш сёння,*
*любоў прываражыш,*
*і ў здароўі, у добрых марах*
*трымаеш род людскі,*
*асабліва красіш твары*
*гожым беларускам!*

# УВАГА КОНКУРС!
## № 45-16

Разгадайце загадкі, адказы дашліце ў „Зорку” да 19 лістапада 2016 г., найлепш па электроннай пошце. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Кішэняў не мае,**
**А сонца хавае,**
**Страху не знае —**
**Ад ветру ўцякае,**
**Хоць і сляпая —**
**Слязу пралівае.**
**Х....**

**(У. Мацвеенка)**

## Загадкі з роднай хаткі

**Адказ на загадку № 42: сон. Узнагароду, запісную кніжку, выйрала Вікторыя Гаць з Бельска-Падляшскага. Віншуем!**



# Вікторыя — суперконкурсніца!

Хоць многіх чытачоў «Зоркі» ведаем толькі па імені і прозвішчы, цёпла і моцна пра іх думаем. Некалькі дзён назад мы асабіста пазнаёміліся з такой «старой знаёмай».

Гэта Вікторыя Гаць з Бельска-Падляшскага. Дзяўчынку можна назваць самай актыўнай зорчынай конкурсніцай. Здаецца, не было на працягу года такога тыдня, каб яна не даслала нам адказаў на крыжаванкі і загадкі. Энтузіязм Вікторыі не згас нават у час канікул. Тады трэба самому пайсці ў магазін і набыць «Ніву», а пасля яшчэ раз схадзіць на пошту, каб выслаць адказ.

— Як гэта робіш? — пытаем у нашай сяброўкі.

— Звычайна, — кажа яна, — мне гэта падабаецца!

У час сустрэчы мы перадалі ўзнагароды. Назбіраўся тоўсты пакет. Усе класныя сябры адрэагавалі на гэта спантаннымі, бурнымі воплескамі. Аж задрыжэлі сцены. Яны ганарацца сваёй сяброўкай Вікторыяй.

**З-ка**

## Як дакінулі грошы Хожы

*(казкі народаў Каўказа)*

У Хожы скончыліся грошы. Ён засумаваў, прысеў ля ачага* і думае: як жыць, што рабіць? У беднага адна песня — бяда біду паганяе. Ніхто не злітуецца, ніхто не дапаможа.

— Уся надзея ва Усявышнім. Калі ён не падсыпле грошай у мой кашалёк, зноў мае дзеткі пойдуць галоднымі спаць. Ой, каб ён падкінуў мне сто злотых... — аддаўся марам Хожа.

І дадаў:

— А як падкіне мне хоць на адзін злот менш, дык не вазьму нічога.

Пачуў гэта багаты сусед і вырашыў праверыць, ці сапраўды Хожа адкажацца ад грошай, калі будзе на адзін злот менш. Захутаў ён у вузельчык дзевяноста дзевяць залатых манет, і кінуў праз комін...

Хожа не паспеў даказаць свайго пажадання, аж бачыць — ля яго ног вузельчык з грашыма. Усцешыўся небарака. Стаў грошы лічыць. А там роўна дзевяноста дзевяць злотых. Абурыўся Хожа ды шпурнуў вузельчык у куток.

— Ой, паскупіўся ты, Усявышні! Не вазьму я гэтых грошай...

А пасля адумаўся. Узяў вузельчык у рукі і кажа:

— Навошта я прыдзіраюся да Цябе, Магутны? Ты ж даў мне дакладна столькі грошай, колькі я ў цябе прасіў. Тут жа вузельчык каштуе яшчэ адзін злот. Чаму я адразу не здагадаўся?

Пачуў гэта багаты сусед Хожы, прыбег да яго і кажа:

— Вярні мае грошы. Гэта я закінуў іх у твой комін.

Хожа паглядзеў на яго са здзіўленнем:

— Паслухай сусед. Я ў цябе не прасіў грошай. Я гаварыў з Усявышнім ды ён паслаў мне гэтыя грошы. Ды зараз з Ім я буду разбірацца, А ты не сунь нос у чужыя справы!

***(пераклад з рускай мовы Ганны Кандрацюк)***

— ачаг — *агмень (ognisko domowe)*

— *месца ў хаце, дзе гуртуецца сям'я.*

## Вершы Віктара Шведа



### Хто выхоўвае Міколу?

Бацька надта знерваваны,
Яго сын непаслухмяны.
Ён пытае: — Цябе, Мікола,
Так выхоўвае школа?

А настаўнік зноўку ў школе,
Змучаны гарэзай Коляй,
Запытаўся па-другому:
— Так выхавалі цябе дома?

### Як пазнаць век курыцы?

Настаўнік вучняў пытае:
— Як курыцы век пазнаем,
Яна яшчэ маладая,
Ці ўжо зусім старая?

Азваўся вучань Стах:
— Пазнаем век па зубах.
— Зубоў не мае акурат.
— Але ў мяне зубоў шмат.

## Замкі і палацы Беларусі

# ЗАМАК У МАЗЫРЫ ПРЫЦЯГВАЕ ТАЛЕНАВІТЫХ ДЗЯЦЕЙ

Сёння завітаем у Мазыр, палескі горад над Прыпяццю. Там узнік праект рэканструкцыі старажытнага горада. У цэнтры забудовы стаіць замак. Праўда, ён па памерах меншы, чым яго легендарны папярэднік і зусім іншыя ў яго задачы.



Пра Мазырскі замак успамінаюць старажытныя хронікі. Спачатку ён быў драўляны, а ў 15-м стагоддзі існуе як сядзіба феадала з трыма абарончымі вежамі. У цэнтры знаходзілася царква св. Спаса са святынямі і цудадзейнымі іконамі.

У 1576 годзе замак быў грунтоўна перабудаваны. Ён набыў яшчэ дзве вежы і напамінаў недаступную крэпасць. Гэты закутак Беларусі безупынна наязджалі татары, таму замак быў надзейным сховам і даваў гарантыю бяспекі людзям. Тым не менш, замак не раз пацярпеў ад дзікай навалы качэўнікаў. Але ён падносіўся і ажываў. У 1649 годзе замак заваяваў князь Януш Радзівіл. У час штурму крэпасць была моцна пашкоджана і не паднялася ўжо з заняпаду.

Дзякуючы рэканструкцыі, замак набыў другое жыццё. Кожны год у замку праходзіць міжнародны фестываль маладых талентаў «Зямля пад белымі крыламі». У Мазыр прыязджаюць дзеці з цэлага свету, каб пазмагацца за галоўны прыз па вакале і харэаграфіі. На месцы яны захапляюцца ракой, якая ўвесну выступае з берагоў і чаруе маляўнічым разводдзем. Так, так, на Палессі з радасцю вітаюць веснавое разводдзе. Яно дае гарантыю на аднаўленне прыроды і багаты ўраджай.

**ЗОРКА**

## Польска-беларуская крыжаванка № 45-16

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы, з наклееным кантрольным талонам, на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку". Тут разыгрываем цікавыя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку № 41:**

Тур, мі, увага, сват, рогі, каса, ар, кастрычнік, таз, на, Варшава. Тэма расказ, квас, астра, хутар, парачка, горн, маг, Іна, Ірка.

Узнагароды, наклейкі, выйгралі **Дам'ян Карнілюк, Іаанна Нікіцюк, Мікола Троц, Дамінік Врублеўскі** з Бельска-Падляшскага, **Зузанна Мішчук, Вольга Мішчук, Віялета Смалюк, Марыя Варанчук** з Арэшкава. Віншуем!

| | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | Gęś | | Namiętność / Fakt | |
| | Hymn | Gawron | Hart / Zespół | | | | |
| | Gust | Dźwięk / Góra | | | | | |
| | Pan | | | | | | |
| Park / Portal | | | | | As | | |
| | | | | | | | |
| Bierz | | | | Jaś | | | |

# ВІЗАНТЫЙСКАЕ



# перажыванне веры



**Восеньскі, кастрычніцкі час для жыхароў Бельска-Пядляшскага аказаўся добрай нагодай для сустрэчы з музыкай і культурай Візантыі. Горад стаў арэнай сакральнага мастацтва, дзе гучалі візантыйскія спевы, выступіў літургічны хор з Сербіі, пісаліся іконы, якія адклікаліся да візантыйскіх часоў, ды чыталіся даклады. Гэтыя падзеі адбываліся ў рамках мерапрыемства Сімпазіён «Пралог — Крэста». Адным з асаблівых момантаў імпрэзы было выкананне кандака «Аб навернутай» аўтарства св. Рамана Сладкапеўца калектывам «Схоля Венгайты» і спевакамі з Беласточчыны. Галоўным арганізатарам Сімпазіёна «Пралог — Крэста» выступіла Таварыства «Венгайты» з Венгайтаў, што пад Ольштынам, з дапамогай Музея малой бацькаўшчыны ў Студзіводах і Пакроўскага праваслаўнага прыхода.**

З 10 па 15 кастрычніка ў Бельску-Падляшскім праходзілі падзеі, у цэнтры якіх знаходзілася візантыйская культура. Былі яны часткай праекта «Крэста 2016 — Мастацкая вандроўка мяжой на шляху памежжаў культур», рэалізаванага Таварыствам «Венгайты» з Венгайтаў, што пад Ольштынам. Праект, мэта якога — даследаванне культурных памежных абшараў між Захадам і Усходам Еўропы, быў рэалізаваны, між іншым, у такіх краінах, як Сербія, Румынія ды Македонія, з чаго фінальная яго частка адбылася якраз у Бельску-Падляшскім пад назвай Сімпазіён «Пралог — Крэста». У рамках праекта 15 кастрычніка ў бельскай ратушы чыталіся даклады, прысвечаныя візантыйскай культуры ў спеве ды іканапісе, а таксама яе вытокам у македонскай і сербскай культурах. Сярод дакладчыкаў былі, між іншым, госці з Македоніі і Сербіі: Мікола Папміхайлаў з Бялграда, Дзмітрый Кумбароўскі са Скоп'е, а таксама Іаанна Тамальская з Беластока.

У бельскай ратушы ў гэты ж самы дзень запрацавала выстава ікон, напісаных сябрамі майстэрні «Agathos», а таксама падляшскімі творцамі падчас майстар-класаў, якія праходзілі ў мясцовай ды адзінай у Польшчы Іканаграфічнай школе. Тыя заняткі былі асаблівай прэлюдыяй перад галоўнымі падзеямі імпрэзы, якія праходзілі ў днях 14-15 кастрычніка. Майстар-класы вёў іканапісец ды багаслоў з Супрасля Рыгор Пракапюк:

— Мэта майстар-класаў — спазнанне ўдзельнікамі падставовай тэхнікі пісання ікон — тэмперавай. Пішучы гэтай тэхнікай, карыстаемся натуральнымі пігментамі, золатам, ды арганічнымі лакамі. Тэхналогія накладання колераў абапіраецца на запаўненні працы колерамі спачатку цямнейшымі да штораз яснейшых. Такім чынам у іконе можа атрымацца эфект светласці. Мы выкарыстоўваем тыя спосабы, каб стварыць працу, якая прэзентуе асаблівую выяву. Гаворка тут ідзе пра святога Рамана Сладкапеўца, якога малюем у сувязі з набліжаючымся святам Пакрова Прасвятой Багародзіцы, з якой асоба святога была звязана. Якраз яму аб'явілася Божая Маці і надзяліла яго дэкламатарскімі здольнасцямі. На іконе стараемся паказаць таксама гэты элемент гісторыі. Ёсць такая ідэя, каб на рамцы іконы напісаць словы, якія сказаў Раман Сладкапеўца толькі пасля аб'яўлення: "Дева днесь Пресущественного рождает". Гэтыя словы можна ўспрымаць як аздобу іконы, але адначасова аздобу жыцця святога і лічу, што яны добра карэспандуюць са святам.

Сімпазіён з'яўляецца плёнам кааперацыі Таварыства «Венгайты» і іх імпрэзы «Крэста 2016 — Мастацкая вандроўка мяжой на шляху памежжаў культур» з Музеем малой бацькаўшчыны ў Студзіводах з іх мерапрыемствам «Пралог — Дні славянскага пісьменства».

— Мы лічым вялікім гонарам факт, што Сімпазіён «Пралог — Крэста» як фінальная частка шырэйшага праекта адбываецца якраз у Бельску-Падляшскім, — лічыць суарганізатар мерапрыемства Тамаш Суліма са студзіводскага аб'яднання. — Паказванне падчас мерапрыемства менавіта візантыйскага тыпу культуры я ўспрымаю як трапны выбар. Візантыйская музыка, тут перш за ўсё спеў, гэта добры прыклад спалучэння свету культуры Захаду і Усходу. Паколькі перыяд, з якога паходзіць тая музычная форма, гэта першае тысячагоддзе, то-бок перад расколам хрысціянства, тут можна знайсці шмат агульнага між двума тыпамі культур. Каб прыблізіць паняцце візантыйскага ладу спявання, ладзяцца майстар-класы пад кіраўніцтвам Марціна Абійскага, якіх плёнам будзе выкананне ў дзень свята Пакрова Прасвятой Багародзіцы, кандака «Аб навернутай», аўтарства св. Рамана Сладкапеўца.

— Адным з напрамкаў нашай культурніцкай і культурнай дзейнасці з'яўляюцца старажытныя ды сярэднявечныя музыка і тэатр, — лічыць Сяргей Петрычэнка з калектыву «Схоля Венгайты». — Ахвотна наладжваем ды прымаем удзел у ініцыятывах, у час якіх мы знаходзімся блізка гэтых форм, мы можам іх паказваць. Мерапрыемствы ў Бельску-Падляшскім, падчас якіх засяроджваемся на візантыйскай культуры, гэта яркі прыклад вяртання даўніны з першых стагоддзяў нашай эры.

Найбольш багатым у духоўным плане аказаўся дзень 14 кастрычніка. Святкаванне Пакрова Прасвятой Багародзіцы і св. Рамана Сладкапеўца ў Пакроўскай царкве несумненна было незвычайным. На гэты факт паўплывала асаблівая ўрачыстая святая літургія, якую разам з мітрапалітам варшаўскім і ўсяе Польшчы Савам узначальваў архіепіскап Новай Юстыніяны і ўсяго Кіпра Хрызастом II. Незвычайнымі ў падляшскім маштабе былі і напевы, якія гучалі падчас набажэнства — выконваў іх хор імя Майсея Пятровіча з Бялграда.

Асноўны духоўны атракцыён у дзень свята Пакрова Божай Маці адбыўся, аднак, вячэрняй парой. Тады якраз, таксама ў Пакроўскай царкве, адбылася літургічная драматызацыя «Akolothia». Падчас яе прагучаў кандак «Аб навернутай», аўтарам якога з'яўляецца св. Раман Сладкапеўца. Твор з VI стагоддзя з грэчаскай мовы на польскую пераклаў Мацей Казінскі. Песню візантыйскім ладам спеву выканалі спевакі са «Схолі Венгайты», хор імя Багдана Анісімовіча, а таксама прыхадскія харысты з Бельска-Падляшскага. Групай спевакоў кіраваў музыколаг, кантар з Беластока Марцін Абійскі, які адначасова з'яўляецца аўтарам музыкі да кандака:

— Адбываецца гістарычная падзея, якой не было цягам некалькіх соцень, магчыма што нават больш за тысячу гадоў. Можна сказаць, што мы адкрываем старыя тэксты нанова. Паказваем прыгажосць праваслаўя як усходняга касцёла ў гэтай найбольш класічнай форме, таму што кандакі наогул паходзяць з V-VI стагоддзяў. Мы гаворым аб іх, вучымся ім у тэалагічных школах, ды на літаратуразнаўстве, але насамрэч мы, здаецца, ніколі не мелі нагоды пачуць іх ужывую, а да таго яшчэ ў натуральным для кандакоў месцы, то-бок у храме. Калі ідзе пра падрыхтоўку да выканання кандака «Аб навернутай», гэта быў даволі складаны працэс, прыкладна па прычыне таго, што мы займаліся візантыйскай музыкай, штодзень для нас адлеглай, хаця для праваслаўных грэчаская царква з'яўляецца ўзорам, бо менавіта адтуль мы прынялі праваслаўе. Акрамя таго нечаканасцю быў аб'ём твора — аказалася, што атрымалася з гэтага 20 старонак напісанай музыкі ды 40 хвілін спеву. Аднак я задаволены выкананнем, варта было гэта зрабіць і спадзяюся, што гэта не апошні кандак, які нам атрымаецца выканаць.

Падзея мела сваё пафаснае афармленне. Перад выкананнем кандака св. Рамана Сладкапеўца харысты ў цішыні выйшлі на сярэдзіну царквы, у якой адзіным святлом былі свечкі трыманыя харыстамі ды вернікамі. Такім чынам стварыўся кліматычны змрок, які дадаў цэламу выкананню твора грандыёзны характар.

— Вядома што гэта асаблівыя моманты, як для нас — выконваючых кандак, так і для слухачоў, для вернікаў, бо здагадваюся што звычайна ў іхнім храме не гучаць творы такога тыпу, візантыйскія, — кажа Адам Цудак, музыкант і аніматар культуры са Шчытна, які супрацоўнічае са «Схоляй Венгайты». — Такімі музычнымі формамі як візантыйскія спевы не займаюся адносна часта, час ад часу рэалізую адзіночныя праекты. У большай ступені займаюся тварэннем інструментальнай музыкі. Таму і выкананне кандака «Аб навернутай» тым болей было для мяне новым досведам. Зусім невыпадковым для мяне было і месца, у якім мы спявалі гэты твор. Я ўсвядоміў сабе, што калі гэты кандак мае дзесьці прагучаць упершыню, дык напэўна гэтым месцам павінна быць Падляшша, у гэтым выпадку Бельск-Падляшскі. У гэтым рэгіёне адчуваецца духоўнасць адпаведная клімату твора.

— Я ўражана тым, што магла ўдзельнічаць у такой асаблівай падзеі. Я штодзень спяваю ў прыхадскім хоры, але там мы наогул спяваем песні ў старарускім стылі, — лічыць Іаанна Пятроўская з Бельска-Падляшскага. — А тут, аднак, узнік новы выклік у выглядзе візантыйскага спеву. Лічу, што твор св. Рамана Сладкапеўца складана было вывучыць. Мушу адначасова сцвердзіць, што я ўражаная таксама і самымі словамі кандака. Мае ён вялікую сілу ўздзеяння — спяваючы, я атаясамлівалася з асобай грэшніцы, пра якую ідзе гаворка ў творы. Проста, чуючы словы песні, чалавек сам пачынае думаць аб сваіх грахах.

На літургічную драматызацыю «Akolothia» склаўся выступ гасцей з Сербіі. Мужчынскі хор імя Майсея Пятровіча з Бялграда выканаў твор св. прападобнай Касіяны, якая жыла ў IX стагоддзі.

— Св. Касіяна з'яўляецца адной з самых рэдкіх жаночых кампазітарак візантыйскага перыяду. Яе песня «Слава» гэта несумненна выдатны велікапосны твор, прысвечаны таксама біблейскай блудніцы, — кажа мастацкі кіраўнік хору Нікола Папміхайлаў. — Удзел у Сімпазіёне «Пралог — Крэста» гэта наша другое выступленне ў Польшчы, але першае на Беласточчыне і ў польскай праваслаўнай царкве. Як удзел у літургічнай драматызацыі «Akolothia», гэтак і спяванне падчас набажэнства, якое ўзначальвалі мітрапаліт Сава і першаіерарах Кіпрскай царквы архіепіскап Хрызастом II, з'яўляюцца для нас вялікім гонарам і лічым гэта важным момантам у дзейнасці нашага хору.

Хаця гучанне візантыйскіх спеваў у Бельску-Падляшскім не з'яўляецца звычайнай падзеяй, у гэты пятнічны вечар не надта многа асоб вырашыла прыйсці ў царкву Пакрова Прасвятой Багародзіцы паслухаць выканаўцаў. Прыбылыя наогул захапляліся пачутым:

— У мяне было ўражанне, што я перанеслася ў першыя стагоддзі хрысціянства, у катакомбы або на двор якогась візантыйскага кесара, пры якога троне спевакі выконвалі песні, — кажа Альжбета Юрчук. — Для мяне тая падзея гэта вялікая справа, якая мае асабістае значэнне, таму што кандак «Аб навернутай» спявае таксама мая дачка.

— Я пад вялікім уражаннем. Першы раз у маім жыцці я пачуў і ўбачыў калектывы, якія выконваюць візантыйскія напевы, творы з першых гадоў нашай эры, — лічыць Рыгор Суліма. — Да таго яшчэ гэта ў нас праходзіць незвычайны візіт, бо ў наш горад прыехалі госці з Сербіі.

У змесце кандака «Аб навернутай» неаднойчы гучалі словы: «Ад злых, дужа брудных грахоў збаві мяне». Словы тычацца нашых грахоў, людскіх, ды могуць яны выклікаць рэфлексію. Але ці наогул думаем аб нашых грахах? Ці толькі пры нагодзе такіх падзей як тая з візантыйскімі спевамі ў Пакроўскай царкве?

**Тэкст і фота Мацея РАЦІНЕЎСКАГА**

Беласточчына на старонках „Беларускіх ведамасьцяў”, 1921-1922 гады


Год II. Панядзелак, 9 студня 1922 г. (29 декабря 1921 г.) № 2

БЕЛАРУСКІЯ ВЕДАМАСЬЦІ

№ кащтуець 30 польск. мар.

Газета выходзіць раз у тыдзень.

# Пісалі Сапрон Дзяга, Янка Вехаць і Селянін ...

Беларускамоўная газета „Беларускія ведамасьці” выдавалася ў Вільні з 14 верасня 1921 года да 15 студзеня 1922 года. Рэдактарам і выдаўцом газеты быў таленавіты пісьменнік Максім Гарэцкі. Газета выдавалася замест „Нашай долі”, забароненай уладамі Сярэдняй Літвы. Усяго выйшла 19 нумароў.

У „Беларускіх ведамасьцях” друкаваліся матэрыялы на самыя разнастайныя тэмы: эканамічныя, палітычныя, этнаграфічныя, рэлігійныя, літаратурныя, фальклорныя, сацыяльныя і іншыя. Свае матэрыялы змяшчалі Усевалад Ігнатоўскі, Аркадзь Смоліч, Максім Гарэцкі, Аляксандр Ружанцоў, Макар Краўцоў, Францішак Умястоўскі, Ігнат Канчэўскі і многія іншыя вядомыя асобы.

Сярод прафесійных аўтараў былі і вясковыя карэспандэнты газеты. Са сваіх рэгіёнаў яны дасылалі ў „Беларускія ведамасьці” розныя інфармацыі пра тыя падзеі, якія адбываліся ў іх мясцовасці.

Актыўна газета друкавала матэрыялы невядомых сёння аўтараў з Беласточчыны Сапрона Дзягі і Янкі Вехаця. Сапраўдныя імёны і прозвішчы карэспандэнтаў, якія падпісвалі свае матэрыялы гэтымі псеўданімамі, застаюцца пакуль неразгаданымі. Але вельмі цікава праз 85 гадоў прачытаць тое, аб чым пісалі Сапрон Дзяга і Янка Вехаць, а таксама даведацца, што тады адбывалася на беларускай Беласточчыне. Праўда, быў там і яшчэ адзін сельскі карэспандэнт Селянін. Ёсць і такая версія, што гэтымі псеўданімамі падпісвалася адна асоба. Той Селянін, напрыклад, 10 кастрычніка 1921 года пісаў з Нова-Дворскай воласці Сакольскага павета аб тым, што „Сакольшчына, як ведама, даўно прылучана да Польшчы, не пытаючыся нас, сакольскіх беларусаў. Нас цяпер хочуць вырабіць на свой капыл. Хочуць з нас зрабіць палякаў. Паадчынялі (у іншых месцах пад прымусам) польскія школы, пабралі маладых мужчын у войска, пазачынялі цэрквы, прымушаюць гаварыць абавязкова па-польску, гаворачаму па-беларуску не адказваюць. Жыццё зрабілася для нас цяжкім... Ксёндз у воласці цар і бог, ні адзін сход, ні адныя выбары не абыдуцца без яго, усюды ён кіруе. Нядаўна ў Новым Двары па просьбе праваслаўных сялян была адчынена Нова-Дворская царква. Учуўшы, сяляне з усіх вёсак, як на ўрачыстасць, сабраліся да цэркві, так што нават месца не хапіла ў царкве, дык сталі за брамаю. А каталікі ўсе дзівіліся, скуль магло набрацца столькі, як яны кажуць „кацапаў”. І данеслі ксяндзу, а ксёндз знай сваю справу — зараз да жандараў, да Сакольскага старосты, а можа нават і далей данёс, і царкву на трэці тыдзень закрылі...”.

У гэтым самым нумары „Беларускіх ведамасьцяў” Сапрон Дзяга з Крынак паведамляў пра Крынскі гурток беларускай моладзі, які пажадаў паставіць на сцэне ранейшую драму „Манька” і камедыю „Модны шляхцюк”. У Крынках хлопцы і дзяўчаты ўжо развесілі рэкламныя афішы, нават адна была напісана на польскай мове. Праўда, у ёй было дужа шмат памылак, бо сябры гуртка не ведалі польскай мовы. На афішы быў намаляваны модны шляхцюк, а яго за нагавіцы тузае сабака, шляхцюк яму крыць: „Poszed won!”. І вось ноччу з 24 на 25 верасня афішу нехта сарваў... Вось пра гэта і піша аўтар у газету.

Пад псеўданімам Вехаць у № 5 „Беларускіх ведамасьцяў” за 1921 год чытачы таксама прачыталі і пра беларускую пачатковую школу ў Крынках, якую польскі настаўнік **„powszechnaje szkoły”** закрыў без аніякіх прычын. Бо гэтаму настаўніку падпарадкоўваліся ўсе мястэчковыя школы. Настаўнік гэтай школы звярнуўся ў Гародню, каб даведацца, чаму закрылі школу. Але замест адказу інспектар звольніў яго з працы. „Гэтак і закрылі беларускую пачатковую школу — адну на ўвесь Гарадзенскі павет, апроч Гародні”, — з адчаем паведамляе аўтар.

Сапрон Дзяга пад крыптанімам С-Д у № 11 за 1921 год „Беларускіх ведамасьцяў” паведаміў, што тэатральная секцыя беларускага гуртка моладзі ў Крынках 30 кастрычніка паставіла жарт Леапольда Родзевіча „Збянтэжаны Саўка”. Рэжысёрам-пастаноўшчыкам спектакля быў псаломшчык мясцовай царквы Іосіф Пералайка. Ролю збянтэжанага Саўкі іграў Рыгор Астроўскі, які ўсіх смяшыў і найбольш атрымліваў апладысментаў. Ролю Магрэты іграла Ксеня Анісімавічанка. Аўтар інфармацыі нават робіць артыстцы заўвагу, што на крыўлянні Саўкі яна некалькі разоў усміхнулася. А вобраз жабрака на вясковай сцэне стварыў мясцовы артыст Янка Лотыш.

Спектакль „Збянтэжаны Саўка” тады прайшоў вельмі весела, гледачы доўга крычалі „брава!” і дзякавалі артыстам.

У адной з інфармацый („Беларускія ведамасьці”, 1921, № 7) усё той жа Сапрон (а ў іншых месцах і Супрон) Дзяга пісаў, як праходзіў перапіс насельніцтва ў Крынках, які быў арганізаваны па загадзе Галоўнага статыстычнага ўраду Рэчы Паспалітай. Перапіс насельніцтва ў Крынках тады праводзіла польская настаўніца Я. Ст. Калі ў аўтара інфармацыі (значыць, ён жыў у Крынках — С. Ч.) спыталі: якая ваша родная мова, ён адказаў: беларуская. А яна запісала — беларуская і польская. На пытанне: якой вы нацыянальнасці — адказаў: беларус, а запісала — расіянін... На пытанне, чаму яна так піша, настаўніца адказала, што яе так навучыў „інструктар”. У канцы сваёй інфармацыі Супрон Дзяга падводзіць вынікі: „Панэ «інструктары»! Пішэце, пішэце на паперы, перарабляйце на ёй беларусаў на маскоўцаў і палякаў, але ў глыбіні нашых сэрцаў перарабіць нас вам не ўдаецца”.

У № 9 за 1921 год „Беларускіх ведамасьцяў” была надрукавана інфармацыя з вёскі Семяноўка Крынскай гміны. У ёй паведамлялася, што яшчэ пры немцах у пачатку XX стагоддзя па просьбе жыхароў была адкрыта беларуская пачатковая школа з беларускім настаўнікам. У 1919 годзе настаўнік з гэтай школы паехаў у Вільню на курсы. Пакуль ён быў на курсах, палякі са школы вывезлі лаўкі і іншыя рэчы. А калі вярнуўся настаўнік з курсаў, то і яму працаваць у гэтай школе не дазволілі. Другі настаўнік выклапатаў, каб школу ў Семяноўцы адкрылі. Але 21 жніўня 1921 года павятовы інспектар прыслаў польскую настаўніцу. І хутка ў вёсцы замест беларускай адкрылі ўжо польскую школу.

У наступнай карэспандэнцыі з Крынак Супрон Дзяга паведамляў пра тое, як пан войт даў загад па вёсках сабраць для настаўнікаў „з кожнай дзесяціны па 4 хунты жыта, 5 хунтаў бульбы, 7 лотаў тлушчу” і г. д. Але вяскоўцы выказалі сваё незадавальненне: беларускіх настаўнікаў няма, беларускіх школ няма, дзеткі не вучацца, дык навошта падтрымліваць чужое „nauczycielstwo”. Пра гэта і піша Супрон Дзяга.

Янка Вехаць у №14 за 1921 год паведамляў, што ў Крынках 20 лістапада грамада беларускай моладзі паказвала новыя спектаклі. І хоць надвор'е было дажджлівае, у вясковы тэатр прыйшло шмат людзей, былі запрошаны і бежанцы, якія вярнуліся на Бацькаўшчыну. Вясковыя артысты паказалі „Калісь” Ф. Аляхновіча і „Конскі партрэт” Л. Родзевіча. Асабліва добра ігралі свае жаночыя ролі сёстры М. і В. Крывашэйны і В. Касацкая.

Вельмі цікавы факт зафіксаваў у сваёй карэспандэнцыі Янка Вехаць („Беларускія ведамасьці”, 1921, № 15) пра тое, як мясцовыя паны ў Крынках вельмі актыўна прадаюць мазурам з Польшчы зямлю і лес. А вось беларускім бежанцам, якія вярнуліся дамоў з Расіі і не пабачылі сваіх будынкаў, і хочуць за грошы купіць лесу, то ім мястэчковыя паны прадаваць не жадаюць.

З вёскі Семяноўка была апублікавана ў „Беларускіх ведамасьцях” і яшчэ адна інфармацыя, якая мела загаловак „Фальсіфікат замест беларускае вучыцельні” (1922, № 3). У ёй аўтар высмейваў мясцовую настаўніцу-беларуску, ад якой немагчыма было пачуць ніводнага роднага слова. А калі чыё дзіця не пойдзе ў школу, дык бацькі за гэта плацілі штраф. Яна так ужо аштрафавала шэсць бацькоў. А яшчэ аўтар крыўдзіўся, што гэтай настаўніцы трэба было вяскоўцам бясплатна сячы дровы, даваць фурманку і выконваць іншыя па яе жаданні работы...

Гартаючы і чытаючы „Беларускія ведамасьці” першай паловы XX стагоддзя, бачна, як няпроста тады жылося тутэйшым людзям — беларусам Беласточчыны. Але пра свае крыўды і праблемы яны ўсё ж маглі смела выказацца на старонках беларускіх выданняў.

**Сяргей ЧЫГРЫН**

## Дзень сеніёра

Традыцыйны Дзень сеніёра адзначаўся сёлета ў Гмінным асяродку культуры ў Чаромсе ў суботу, 29 кастрычніка. Арганізатарам выступіла Гмінная ўправа, а суарганізатарам — Раённае аддзяленне Польскага саюза пенсіянераў і інвалідаў. Гэтая цыклічная імпрэза карыстаецца папулярнасцю ў гміннай грамадскасці. Абвесткі аб мерапрыемстве заўчасна распаўсюдзілі па сёлах ГАК, ПСПіІ і святары ў царкве ў час набажэнства. Сёлета ў святкаванні ўдзельнічала дзевяноста сем чалавек, у тым ліку запрошаныя госці: войт Міхал Врублеўскі, старшыня Рады гміны Сяргей Смык, а. Юры Пліс, кс. Кшыштаф Дамарачэнька і шматгадовы лекар Гміннага асяродка здароўя, цяпер пенсіянер Анджэй Лагуна. За пачастунак — бутэрброды, салодкасці, фрукты, напоі ды пячэнне — задбалі арганізатары. У прадукты дамашняй кухні і «штосьці для духу» забяспечылі сябе самі сеніёры. Сталы, расстаўленыя навокал пры сценах, былі багата застаўлены. Прасторная сярэдзіна залы чакала танцораў.

Святкаванні пачаліся ў трынаццаць гадзін з выступлення войта гміны Міхала Врублеўскага. Прамоўца спасылаўся на традыцыю святкавання Дня сеніёра, павіншаваў пенсіянераў са святам, затым ад імя гмінных улад уручыў букет кветак сакратару Раённай арганізацыі пенсіянераў Галіне Андрасюк. Старшыня ПСПіІ Мікалай Янчук далучыўся да пажаданняў, падзякаваў за супрацоўніцтва Гміннай управе на чале з войтам, кіраўнікам Памежнай аховы і Дзяржаўнай пажарнай аховы, ды назваў прозвішчы заслужаных пенсіянераў, узнагароджаных ганаровымі граматамі. Ад імя ваяводы атрымалі іх Вольга Сцепанюк і Тэрэса Закшэўская, ад Акруговага праўлення і Раённага аддзялення — Галіна Андрасюк, Яўген Гаеўскі, Уладзімір Калток, Яўгенія Мартынюк, Хведар Назарук, Яўгенія Пытэль, Вольга Раманчук, Андрэй Раманчук, Пётр Раманюк (два дыпломы), Ніна Шаўцоў, Валянціна Шымусюк і Надзея Унучка. У мастацкай частцы з вершамі і песенькамі выступілі вучні пачатковай школы пад кіраўніцтвам Ірэны Вішанкі, а ў музычнай частцы запрэзентаваўся аркестр духавых інструментаў пад кіраўніцтвам Мікалая Гарадкевіча.

Пакуль госці забраліся да спажывання пачастунку, разам з а. Юры Плісам згаварылі малітву. На сцэну выйшлі музыканты. Іграў музычны гурт «Ве Нарру» з Гайнаўкі (двух музыкантаў з Чаромхі). Пасля першых тостаў на паркет рушылі танцоры. Музыканты рэзалі «ад вуха да вуха», а пары кружылі ў такт «дыска-полевых» шлягераў. І так непрыкметна сцякаў час у вясёлай кампаніі. Я пакідаў забаву на адвячорку перад шаснаццатай гадзінай у поўным разгары. А лідар музыкантаў заклікаў праз мікрафон: «Гуляем усю ноч!». Тады вясёлай забавы, паважаныя сеніёры!

**Уладзімір СІДАРУК**
**фота аўтара**



Фота Альжбеты Садзінскай

# Пад Леніна

## сустрэліся беларускія і польскія ветэраны

У мясцовасці Леніна Магілёўскай вобласці ўрачыста адзначылі 73-ю гадавіну змаганняў I Дывізіі пяхоты ім. Тадэвуша Касцюшкі, якая ваявала ў складзе савецкай 33-й Арміі супраць атрадаў Вермахта. Арганізатарам выезду ветэранаў з Польшчы было Таварыства традыцыі Народнага Войска Польскага ім. генерала Зыгмунта Берлінга. Прыехалі таксама пасол РП Конрад Паўлік і аташэ палкоўнік Аркадзь Швед.

На ўрачыстасць прыбылі беларускія ветэраны і жыхары рэгіёна. Супольна з палякамі ўдзельнічалі яны ў малітвах за ўпакой душ загінуўшых, якія ўзначалілі каталіцкія і праваслаўныя святары. Да помнікаў загінуўшым салдатам, якія змагаліся супраць гітлераўцаў за свабоду нашых народаў, былі ўскладзены кветкі. Ва ўрачыстасці ўдзельнічала ганаровая варта беларускай арміі і ваенны аркестр.

Галоўныя ўрачыстасці адбыліся на пляцы перад Музеем I Дывізіі Войска Польскага. У прамове старшыня Таварыства традыцыі НВП маёр Казімеж Рдзанак сказаў: «Прыбываем сюды як спадкаемцы I Дывізіі пяхоты ім. Тадэвуша Касцюшкі, выконваючы свой патрыятычны абавязак прапаведаваць праўду адкуль прыйшла Свабода! Змаганне з фашызмам вялося на шматлікіх франтах. Мы помнім аднак, што свабода для нашай замучанай Айчыны прыйшла з усходу і прынеслі яе жаўнеры адроджанага Войска Польскага, якія змагаліся на баку Савецкай Арміі».

Пасля пераклічкі, прамоў і салюту ўдзельнікі ўрачыстасці наведалі музей, якому быў перададзены бюст ген. Зыгмунта Берлінга, выкананы варшаўскім скульптарам Янушам Тамасінскім. Ад імя Саюза ветэранаў Рэчы Паспалітай Польскай акт перадачы зачытаў палкоўнік Чэслаў Левандоўскі. Бюст адкрылі члены польскай дэлегацыі: палкоўнік Чэслаў Левандоўскі, маёр Казімеж Рдзанак і Адам Завадзіль у суправаджэнні віцэ-мэра горада Горкі Міхаіла Гулія. У кожным фрагменце ўрачыстасці ўдзельнічаў сцяг Таварыства традыцыі НВП, на якім віднеюць красамоўныя словы «Гонар і Айчына». Сцяганосцамі, якім камандаваў падпалкоўнік Багдан Пакроўскі, былі палкоўнік Тадэвуш Таркоўскі, старшы сяржант Збігнеў Цагялкоўскі і палкоўнік Зыгмунт Бонк.

Членамі польскай дэлегацыі былі ветэраны, якія змагаліся за свабоду Айчыны на розных франтах. Камандор праф. Юзэф Чарвінскі і палкоўнік Зышмунт Бонк у студзені 1945 года вызвалялі Варшаву, а ў маі 1945 года здабывалі Берлін у складзе I Арміі Войска Польскага. Палкоўнік Чэслаў Левандоўскі быў жаўнерам Шэрых шэрагаў, удзельнікам Варшаўскага паўстання і вязнем канцлагера ў Штутгафе. Палкоўнік Тадэвуш Таркоўскі быў партызанам у ваколіцах Роўна, а пасля стаў салдатам Савецкай Арміі і Войска Польскага, здабываў Берлін. Многія жыхары Горак і Леніна віталі іх з асаблівай сардэчнасцю і прызнаннем, дзякуючы ім за 70 гадоў спакою. Шмат асоб, асабліва моладзь, прынеслі з сабой беларускія і польскія сцягі, што падкрэслівала пераемнасць гадавіны бітвы як супольнай гістарычнай спадчыны.

Падпалкоўнік Багдан Пакроўскі сказаў «Ніве»: «Вяртаючыся назад, аддалі мы вайсковую пашану таксама пры помніку салдатам Савецкай Арміі на плошчы Перамогі ў Мінску, наведалі Музей Вялікай Айчыннай вайны, у якім яшчэ некалькі дзён таму працавала выстава, прысвечаная гераізму польскіх салдат, якія змагаліся пад камандаваннем ген. Уладыслава Андэрса. Былі мы моцна ўражаны сардэчным прыёмам нашых братоў-беларусаў. Там мы выразна адчулі, што абазначае дружба і памяць аб супольным змаганні за свабоду нашых народаў».

**Адам БОБРЫК**




„Жыццё — гэта тэатр, і людзі ў ім — акцёры". Можна лічыць, што гэта выслоўе суправаджае нас ад дзяцінства, калі мы ўпершыню трапім на які-небудзь дзіцячы спектакль. Менавіта з тых спектакляў і прышчапляецца жаданне ў малых дзяцей граць розныя ўласна прыдуманыя ролі. Для малечы ў беларускім Віцебску першым тэатрам, які знаёміць з персанажамі — добрымі і злымі — з'яўляецца тэатр „Лялька", які сёлета адзначыў сваё трыццацігоддзе.

„Тэатр лялек у Віцебску нарадзіўся ў 1986 годзе. Даўно гэта ці нядаўна? Нядаўна, бо некалькі стагоддзяў горад жыў без тэатра лялек. Не разумеючы метафарычнай мовы лялечных вобразаў, не ўмеючы спасцігаць адвечныя ісціны, гледзячы на «нежывыя прадметы», раслі дзеці, старэлі дарослыя, змяняліся многія пакаленні горада над Дзвіной. Даўно, бо за гэты час калектыў «Лялькі» пакарыў сваім майстэрствам сэрцы мільёнаў гледачоў, стаў шырокавядомым не толькі на радзіме, але і ў далёкім і блізкім замежжы", — распавядаецца на галоўнай старонцы сайта лялечнага тэатра, што месціцца ў інтэрнэце па адрасе **http://lialka.by**.

Сайт тэатра чымсьці нагадвае застаўку да дзіцячай тэлеказкі нанач — на сінім фоне выяўлення зоркі і паўмесяц, а паміж імі назва — „Беларускі тэатр «Лялька»". Далей ідзе дзяленне на тры часткі, дзе месціцца інфармацыя аб прайшоўшых выступленнях трупы, расповед аб гісторыі тэатра і тэатральная афіша на бліжэйшы месяц.

„На рахунку «Лялькі» пяць Гран-пры прэстыжных міжнародных фестываляў, дыпломы, граматы, прызы... Сёння тэатр «Лялька» для віцяблян — ледзь не культавае месца, дзе можна глядзець спектаклі некалькі дзён запар. Глядзець і не стамляцца, атрымліваць сапраўдную асалоду ад прапанаванага відовішча. Бо гэты тэатр не статычны. Ён увесь час у пошуку новых формаў. Этапы марыянетачнага і музычнага тэатра «Лялька» ўжо прайшла. Чым будзе далей здзіўляць гледача калектыў? Глыбока псіхалагічнымі спектаклямі, якіх у рэпертуары ўжо няма, альбо дзіўным сімбіёзам усіх лепшых знаходак у галіне эстэтыкі, што з'явіліся ў багажы лялечнікаў за такія доўгія і такія кароткія гады", — кажуць пра сябе акцёры.

Выйсці на рубрыкі сайта месцяцца ў двух месцах — уверсе сярод зорак і ўнізе, дзе падаюцца выходныя даныя. Усяго рубрык не надта многа, але яны змяшчаюць падрабязную інфармацыю аб тэатры і тэатральным калектыве. Напрыклад, у рубрыцы „Навіны", якая, дарэчы, абнаўляецца даволі часта, можна даведацца аб падзеях, так ці інакш звязаных з жыццём і дзейнасцю „Лялькі". Рубрыка „Калектыў" змяшчае партрэты акцёраў і іншых членаў персаналу.

„Білеты" носяць як інфармацыйную, так і практычную нагрузку — там можна пазнаёміцца з цэнамі білетаў на кожны спектакль, а таксама купіць іх.

Пэўна, найбольш карысная з'яўляецца рубрыка „Спектаклі". Там падаецца кароткая інфармацыя пра тую ці іншую пастаноўку. Гэта дазваляе гледачу выбраць спектакль, будучы ўзброеным звесткамі аб ім.

Беларускі тэатр „Лялька" вельмі папулярны ў жыхароў Віцебска. Сведчаннем гэтаму з'яўляецца старонка „Водгукі і прапановы", дзе гледачы пакідаюць словы падзякі артыстам не толькі ў прозе, але і ў вершах.

**Уладзімір ЛАПЦЭВІЧ**

Дата з Календара Дата з Календара
Дата з Календара
Дата з Календара Дата з Календара

Літаратурны дудар



# 200 гадоў з дня нараджэння Арцёма Вярыгі-Дарэўскага

Беларускі паэт, драматург, публіцыст, даследчык фальклору, адзін з пачынальнікаў новай беларускай літаратуры Арцём Вярыга-Дарэўскі нарадзіўся 4 лістапада 1816 г. у вёсцы Кублічы (Лепельскі павет былой Віцебскай губерні). Належаў да старадаўняга, але збяднелага дваранскага роду. Быў ахрышчаны ў каталіцтва. Бацька яго быў дазорцам мер і вагаў у Кублічах. Маці памерла пасля родаў. Дзяцінства Арцёма прайшло ў фальварку Людвінава непадалёк ад Дзісны. Пасля заканчэння Забельскай гімназіі (мястэчка Валынцы, цяпер Верхнядзвінскі раён) у 1836-1844 гг. служыў у Віцебскай часовай камісіі для рэвізіі дзейнасці Віцебскага губернскага дваранскага дэпутацкага сходу. У сярэдзіне 1840-х гг. набыў фальварак Стайкі паблізу Віцебска, ажаніўся. Служыў у розных установах Віцебска, апекаваўся сельскімі запаснымі магазінамі. У 1852 г. стаў калежскім асэсарам.

Арцём Вярыга-Дарэўскі шмат сіл і часу аддаваў культурна-асветніцкай дзейнасці, імкнучыся арганізаваць на Віцебшчыне народныя школы, тэатр, бібліятэкі і чытальні. У 1850-я гг. арганізаваў у Віцебску публічную бібліятэку. Збіраў беларускі фальклор. Пасылаў допісы ў газеты „Kurier Wileński", „Słowo" (Пецярбург), часопіс „Ruch Muzyczny" (Варшава). Стаў вядомы як аўтар паэм, гутарак і драматычных твораў, якія разыходзіліся ў рукапісах: паэмы „Ахульго" (звязаная са змаганнем горцаў-чачэнцаў пад кіраўніцтвам Шаміля з расейцамі), драмы „Гордасць", камедый „Хцівасць" і „Грэх 4-ы — гнеў". Першым пераклаў на беларускую мову паэму Адама Міцкевіча „Конрад Валенрод". Аднак беларуская творы з-за цэнзурных умоў не друкаваліся, а рукапісы не знойдзены. Пры жыцці літаратара ў 1858 г. выйшла адзіная кніга на польскай мове „Гутарка пра сваяка" пад псеўданімам „Białoruska Duda". Грамадскі рэзананс мела паездка Арцёма Вярыгі-Дарэўскага ў 1858 г. у Вільню, дзе ён сустрэўся з вядомымі прадстаўнікамі культуры. Тады ж быў пачаты знакаміты „Альбом Вярыгі-Дарэўскага" (1858-1863), які стаў своеасаблівым літаратурна-грамадскім альманахам, дзе свае запісы пакінулі Уладзіслаў Сыракомля, Вінцэсь Каратынскі, Адам Кіркор, Вінцэнт Дунін-Марцінкевіч, Аляксандр Рыпінскі, Ялегі Пранціш Вуль. Арцём Вярыга-Дарэўскі стаў аўтарам вершаванай імправізацыі „Літоўцам, якія запісаліся ў мой Альбом на памяць" (да нас дайшла копія). Ялегі Пранціш Вуль (Францішак Карафа-Карыбут) зрабіў запіс свайго беларускамоўнага верша „К дудару Арцёму ад наддзвінскага мужыка" ў альбоме Дарэўскага, называючы яго як песняра па народнай традыцыі „дударом".

У 1861-1862 гг. Вярыга-Дарэўскі браў удзел у патрыятычных мітынгах у Віцебску, за што стаў аб'ектам пільнага нагляду жандараў. У час вызвольнага паўстання стаў адным з кіраўнікоў збройнага выступлення на Віцебшчыне. Арыштаваны 6 мая 1863 г., амаль два гады правёў пад следствам у віцебскай турме. У час следства трымаўся годна і нікога не выдаў, утаіўшы многія звесткі. Спярша засуджаны на пажыццёвую катаргу, пасля замененую 8 гадамі катаржных работ. У 1865 г. высланы ва Усходнюю Сібір на салярварны завод ва Усоллі. З 1868 г. жыў на пасяленні ў Іркуцку. На катарзе і ў ссылцы працягваў пісаць вершы, меў вялікі аўтарытэт сярод ссыльных. Памёр у Сібіры на чужыне ў 1884 годзе. Дакладны дзень смерці і месца пахавання невядомыя. Дачка Габрыеля выйшла замуж за паўстанца Скакоўскага, а пасля смерці бацькі выехала ў Парыж.

**Падрыхтаваў Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ**

# Вудзільныя спаборніцтвы

**У верасні на пляцоўцы арлянскага Комплексу школ адбылася другая серыя Гран-пры спаборніцтваў па вудзільным кастынгу, ладжаных беластоцкім аддзяленнем Польскага вудзільнага саюза ў катэгорыі кадэтаў і юніёраў. Гаспадаром мерапрыемства было арлянскае кола ПВС „Мянтуз”. Дырэктар школы Марыя Томчук пажадала ўдзельнікам прыемнай забавы і поспехаў у наборы як найбольшай колькасці балаў.**

Марк Хмялеўскі:

— Звыш дзесяці гадоў таму абралі мяне старшынёй вудзільнага кола ў Орлі, якое тады яшчэ не мела назвы „Мянтуз”. Тады паставілі перад сабою задачу — працу з дзяцьмі і пачалі ладзіць імпрэзы, каб зацікавіць іх не толькі лоўляй рыб, але і іншымі калявудзільнымі гульнямі. У Орлі мы звязаны са школай (спортпляцоўка, гімнастычная зала); дырэктарам тады быў Дар'юш Гарадзецкі. І ўзнікла ідэя заснаваць вудзільную секцыю пры школе. Дырэкцыя адобрыла гэта, мы сарганізавалі канцэрт пад 50-ю гадавіну кола. І пачалося. З часам пачалі пісаць праекты і за атрыманыя сродкі купілі для секцыі адпаведныя вуды, калаўроткі, маем майкі, школа выдзеліла месца, апекуном кола стаў настаўнік Ежы Назарэвіч, які ад дзесяці гадоў раз у тыдзень збірае на занятні ўсіх ахвотных. Даўней прыходзіла на заняткі каля трыццаці дзяцей, але з году ў год іх лік меншае — іх больш вабяць камп'ютары. І ладзяцца спаборніцтвы не толькі па лоўлі рыбы, але і па кастынгу, які ахоплівае некалькі відаў змагання (трохбор'е): скіш (skeet&fish — лёгкае кіданне „прынады” па некалькіх мішэнях), кіданне па Арэнбергу („цяжэйшае” за скіш), кіданне на адлегласць.

Супрацоўніцтва са школай складваецца паспяхова, шкада толькі, што апякун гэтай секцыі выходзіць на пенсію і некаму перадаць гэты занятак. Гэта заклапочвае, бо перамагае камп'ютар, але ж насільна не ашчаслівім моладзі. Мы яшчэ прыхапілі тое пакаленне вучняў, якіх бацькі і іншыя сямейнікі былі вудзільнікамі і тыя вучні зацікавіліся. Цяпер настае такое пакаленне, якое невядома чым цікавіцца, але стараемся нешта рабіць.

Праз год будзе дзясятая гадавіна спаборніцтваў, зімою прадбачваем кастынг „O puchar Orlątka”, мабыць, з'едуцца спабornікі з усяго ваяводства і, магчыма, будзе гэта апошні акт нашай дзейнасці пры школе.

Сёння (18 верасня) спаборнічаюць вудзільніцы і вудзільнікі з Беластока, Супрасля, Лап, Васількава, Дубровы-Беластоцкай і Орлі. Прыязджаюць самаходамі запар са сваімі апекунамі. Мы таксама ездзім на розныя спаборніцтвы. Сёння прыехалі да нас 33 асобы — гэта вельмі многа. Маем для іх кубкі па некалькіх катэгорыях — кадэты (да трынаццаці гадоў), юніёры. Ёсць такія, якім па 6-7 гадоў і ўжо пачынаюць прыгоду з вудзільніцтвам. Наймалодшых заўсёды ганаруем дадатковымі ўзнагародамі, заахвочваем пачынаючых. Ёсць магчымасць удзелу нават у краёвых спаборніцтвах. Я сам чатыры гады таму вазіў арлянскіх дзяцей у Варшаву, наша чацвёрка не падвяла, маглі яны аглядаць сталіцу.

Другой вартасцю, якую стараемся прывіваць, гэта экалагічныя паводзіны — моладзь заўсёды прыбірае каля рэк. У мінулым годзе мы добраўпарадкавалі старое рэчышча і пасадзілі там дрэвы, у тым ліку і садовыя. Сёлета наша секцыя будзе прыбіраць каля старых каштанаў у старым садзе. Усё складваецца аптымістычна, апрача таго, што шторазь менш ахвотных.

Быў час, калі нам дапамагала гміна, атрымлівалі аўтобус для выезду на Бахуры (на Семяноўскім вадаёме). Калісь у гміне быў курс на спорт, а зараз, не ведаю чаму, ціха. Не ведаю, якім чынам спансаруецца спорт, бо быццам футбол атрымлівае грошы, а мы не маем да іх доступу.

Адбылося некалькі спаборніцтваў па лоўлі рыбы, аднак нямнога, бо не маем такіх вадаёмаў, дзе можна пасадзіць больш спаборнікаў. Ладзілі гэта пад патранатам войта, цяпер маім. Лавілі на вадаёме старой цагельні, ловім па старых рэчышчах за Орляй з боку Рудут, якія кола адкапала за здабытыя фінансавыя сродкі; лавілі там і дзеці, і дарослыя. Сеніёры ездзяць па запрашэннях і дабіваюцца добрых вынікаў — гэта перадавікі ў маштабе нашай акругі. Штогод адбываюцца спаборніцтвы старшынь і сеніёраў — сёлета была перамога індывідуальная і калектыўная. Тры гады таму сеніёр з Орлі, інвалід без адной рукі, злавіў найбольшую рыбу і перамог індывідуальна. Усе лавілі там сучаснымі прыладамі, а Зыгмунт Кулеша выняў звычайную бамбукавую вуду з простым калаўроткам і выцягнуў найбольшага карпа — гэта ўсіх задзівіла. Маем моцных вудзільнікаў: Міхал Стэльмашук, Міхал Тхажэўскі, Чэсек Стулігрош — гэта сеніёры. Сёлета яны ездзілі ў Боцькі, лавілі таксама на адкапаным старым рэчышчы — прывабным месцы, якім апякуюцца вудзільнікі.

Колькі ў нашым коле вудзільнікаў? Калі я пачынаў старшыняваць дванаццаць гадоў таму, было тады 78 асоб, у зорны час нашай дзейнасці было 178 асоб, а цяпер каля ста дваццаці. Многія адышлі ў іншыя колы, бо іншыя колы маюць канцэсію на варшаўскую акругу, маюць даплаты, а мы гэтага не маем, таму і трацім членаў.

Колькі каштуе вудзільны абанемент? Ад некалькіх гадоў у межах двухсот злотаў і можна за гэта лавіць ад Буга па Мазурскія азёры.

Дзе ловім? Вядома, што ўжо на рацэ Арлянцы няма дзе вудзіць (вада з ачышчальняў сцёкаў прывяла да непрыдатнасці Арлянкі для бытавання рыб). Вудзім на ачышчанных старых рэчышчах, на вадаёме старой цагельні. Найчасцей нашы вудзільнікі ездзяць на Бобру ў яе ніжнім цячэнні, на Семяноўку, на вадаёмы ў Дубічах-Царкоўных і Рэпчычах, на Буг.

Рэкордныя экземпляры? Апошнім часам такіх не было, але даўней адзін з нашых членаў злавіў на Бугу 65-кілаграмавага сома, даўжынёй у 195 сантыметраў. Вялікіх рыб не забіваем, выпускаем назад, бо старое мяса нясмачнае, лепш старую рыбу выпусціць. А цяпер такая тэндэнцыя, каб зусім не браць злоўленай рыбы і шмат людзей так робіць. А калі адбываюцца спаборніцтвы па лоўлі жывой рыбы, тады ўсе злоўленыя вяртаюцца назад у свае вадаёмы.

*Запісаў Міхал МІНЦЭВІЧ*

## Пажар у чаромхаўскай насычальні

У пятніцу 28 кастрычніка пасля дзясятай гадзіны вечара ўспыхнуў вялікі пажар у насычальні шпалаў у Чаромсе. Прадпрыемства працавала з 1939 года і было адным з пяці большых у краіне. Працавала ў ім некалькі дзясяткаў чарамшан. Згарэў склад з машынамі, у якім змяшчаліся шпалы. Са стыхіяй змагалася васямнаццаць пажарных частак. Забяспечана ад агню 150 тон хімікатаў; не дайшло да забруджання асяроддзя. Затраты ацэньваюцца на суму ад двух да чатырох мільёнаў злотых. Прычына пажару пакуль што не выяўлена. Расследаванне вядзе паліцыя.

(УС)

# Адгаданка

**Шыфраграма**

Літары адгаданых слоў, перанесеныя згодна з іх парадкавымі нумарамі ў клеткі роспісу, складуць рашэнне — беларускую пагаворку.

1. неглыбокае месца на ўсю шырыню ракі зручнае для пераезду = 15 _ 13 _ 14 _ 12 _;
2. абавязак, напрыклад вярнуць пазычанае = 26 _ 27 _ 28 _ 29 _;
3. селянін, які працуе сярпом = 11 _ 16 _ 20 _ 21 _;
4. яўрэй = 9 _ 25 _ 10 _;
5. жыхар поўначы міжрэчча Обі і Енісея (2*не+ц) = 4 _ 3 _ 34 _ 35 _ 36 _;
6. урачысты велічальны верш = 8 _ 7 _ 1 _;
7. палетак з яблынямі, грушамі = 2 _ 17 _ 24 _;
8. памяшканне малога Сымона ў вясковай хаце = 18 _ 19 _ 5 _ 6 _;
9. паслухмяная дзіця = 22 _ 23 _ 37 _ 38 _;
10. крыніца сілы для перамяшчэння транспартнага сродка = 31 _ 32 _ 33 _ 30 _.

| | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 |
| | | | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 |
| | | 12 | 13 | 14 | 15 | 16 | 17 |
| | | 18 | 19 | 20 | 21 | 22 | 23 |
| | 24 | 25 | 26 | 27 | 28 | 29 | 30 |
| 31 | 32 | 33 | 34 | 35 | 36 | 37 | 38 |

(ш)

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на адгаданку з 42 нумара**

Селядзец, зліў, нябыт, паўзун, бакалаўр, зло, Іркуцк, жаўтуха, японец, тарпеда.

Рашэнне: **Хадзіў бы ў злоце, каб не дзірка ў роце**.

Кніжныя ўзнагароды высылаем **Лявону Федаруку** з Рыбал і **Міхалу Байко** з Беластока

# 06.11 — 12.11

**(22.03. — 20.04.)** Не ашчаджвай сябе, бо ўсё, што цяпер удасца табе выпрацаваць, спрацэнтуе ў будучыні. Рэалізуй амбітныя планы. Твой энтузіязм адаб'ецца на атачэнні. 9.11. прыйдзе табе ў галаву цікавая ідэя на развой сваёй кар'еры. Да 9.11. мінуць твае нямогласці. Бегуны, глядзі пад ногі. 5-7.11. не дазволь, каб цябе хтосьці справакаваў да канфлікту. Трымай нервы ў руках!

**(21.04. — 21.05.)** Усё што самае лепшае атрымаеш ад іншых. Трымайся разам з сябрамі! Да 8.11. хутка і паспяхова аформіш мноства спраў, пасля будзе цябе схільваць да рызыкі. Пара на змену іміджу. Усюды будзеш адчуваць сябе на сваім месцы. Бярыся за работу. Зможаш працаваць на некалькіх франтах і за двух або і трох! Пільнуйся ад інтрыгі. Правер свае мачавыя шляхі, не прастудзі пухіра.

**(22.05. — 22.06.)** Нечаканыя змены і лавіна абавязкаў. Але нішто цябе не зможа зламаць! Зоркі заахвочваюць да сустрэч. Любоў не заглядае ў метрыку. Чакаюць цябе задачы, з якімі не меў ты дачынення; калі што, не бойся, не саромейся — пытайся. Шукаючы працу, не стаў перад сабой толькі заробкаў, глядзі, ці ў новай фірме не будзеш сохнуць і не развівацца. Пільнуй вушэй, насі шапку.

**(23.06. — 23.07.)** Не будзеш шкадаваць таго, што ўжо не вернецца. Будзе нервова, з ахвотай памяняць многа. Але зоркі прытушаць турботы і перашкоды. Зычлівасць зробіць цуды. Засяродзь усе сілы на дасягненні сваёй мэты — ужо вельмі блізка! Падглядай у іншых развязкі, але не дай сябе ўцягнуць у вырашэнне спраў іншых. Халодны душ — і старт!

**(24.07. — 23.08.)** Выпрацуеш сабе неблагую фінансавую сітуацыю ды добрую пазіцыю на працы, а таксама павагу калег. Руль у тваіх руках. Ангажуй максімум энергіі, дзейнічай на ўсю катушку, расці ў лідара. Вылучышся з шэрага тлуму. Ільвы з другой дэкады пасмакуюць нават славы! Хаця дома — найлепш. І пастарайся адвыкнуць ад цыгарэт, алкаголю і... мабільніка.

**(24.08. — 23.09.)** Добрая кан'юнктура ў інтарэсах 5 і 6.11. Спакой. Вострая інтэлігентнасць і здольнасць да аналізу сітуацыі. Хуткія і трапныя рашэнні — найлепшыя каля 8.11. Змабілізуй усе сілы, бо маеш цяпер найбольш карысны час для рэалізацыі праектаў. Рэалізуй план месяца пункт па пункце. Рабі сабе прыемнасці, не глядзі ў каляндар (гэтая стрыжка цябе амаладзіць!). Будзь радасны і адкрыты.

**(24.09. — 23.10.)** Знойдзеш час на абавязкі і прыемнасці. Будзь гатовы на парывы сэрца! 5, 6.11. свежазакаханыя Шалі раскруціцца на ўсю катушку! Будзеш душой кампаніі! Дасі рады і ў фірмавым хаосе, зваліцца на галаву многа спраў і абавязкаў, але ўсё ахопіш. Засяродзься і памедытуй, дадай у меню архэі, шакалад, шпінат, бананы і какаву.

**(24.10. — 22.11.)** Не мрой ды не плануй, а бярыся за рэалізацыю мараў. Час ад часу будзе пад вецер, але не паддавайся. Энергія, крэатыўнасць і паспяховасць. У пачуццях гуляй у адкрытыя карты. Пасядзі з блізкімі. Папрацуй над тым, каб лепш дагаварыцца з іншымі. Парабі парадкі ў паперах дома і ў фірме. Не мяняй нічога з 11.11. (да 15.11.), бо лепшае можа аказацца ворагам добрага.

**(23.11. — 22.12.)** Твая цярплівасць будзе ўзнагароджана і будзеш рабіць тое чаго так доўга чакаў! Праверыш, ці твае мэты могуць быць дасягнуты і хопіць табе энергіі для іх рэалізацыі. Не праваронь шанцу на каханне. На працы варта павысіць свае кваліфікацыі. Маршыруй з палкамі.

**(23.12. — 20.01.)** Не будзе на цябе моцных! Першы на працы, першы дома і першы ў чарзе ў ванную. Зоркі падкрэсляць твае таленты і крэатыўнасць, увядуць у шэрую рэчаіснасць каляровы акцэнт. Папулярнасць у другога полу. Сярод знаёмых не пераборшчвай са шчырасцю. І трымай пакуль амбіцы на кароткім павадку. Не адмаўляйся ад спорту. Але пільнуй ныркі і пазваночнік, не прастудзіся.

**(21.01. — 19.02.)** Будзь самастойны і адважны, і даб'ешся да большага чым думаеш. Не перамажа цябе абы-хто! 5, 6.11. шыкуецца цікавае знаёмства. Хаця 5-7.11. зоркі могуць прытупіць тваю спантаннасць і крэатыўнасць. Усё ж будзеш аптымістычны, выйдзеш жвацю насустрач, змабілізаваны да змагання за важнае. Ад 9.11. дастанеш ад зорак імпэт — будзеш ініцыятыўны, актыўны, добра пашукаеш працу. Пяройме каманду! Але ж пільнуй свайго сэрца, еж вітаміны.

**(20.02. — 21.03.)** Не трась часу і нерваў на справы нявартыя гэтага! Вызнач новы курс. Лёгка не будзе аж да 20.11. Не раздзірай старых ран. Вальнейшы тэмп, але і нагоды для мілых сустрэч з сімпатычнымі людзьмі. І сэрца можа мацней забіцца. Дома займайся тым, што для цябе прыемнае. На працы плануй, пільнуй сваіх дакументаў, не рабі абы-як, не ўслухайся ў фірмавыя плёткі. Ашчадна раскладвай свае сілы, але не адмаўляйся ад прабывання на свежым паветры.

*Агата АРЛЯНСКАЯ*

Ніва ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ
PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714
**Выдавец**: Праграмная рада тыднёвіка „Ніва”.
**Старшыня**: Яўген Вапа.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 84.
**Тэл./факс:** (+48 85) 743 50 22.
**Internet**: *http://niva.bialystok.pl/*
**E-mail**: *redakcja@niva.bialystok.pl*
***Zrealizowano dzięki dotacji Ministra Spraw Wewnętrznych i Administracji.***
**Галоўны рэдактар:** Яўген Вапа.
**Намеснік гал. рэдактара:** Віталь Луба.
**Тэхнічны рэдактар:** Адам Паўлоўскі.
**Рэдактар „Зоркі”:** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Уршуля Шубзда, Міраслава Лукша, Іаанна Чабан, Аляксей Мароз, Віктар Сазонаў, Уладзімір Хільмановіч, Юрка Ляшчынскі, Янка Целушэцкі.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.
**Друкарня**: „Orthdruk”, Białystok.
Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.
**Sprzedaż egzemplarzową „Niwy” prowadzą:** kioski i punkty sprzedaży „RUCH” na terenie woj. podlaskiego oraz w Warszawie (odbiór należy zgłosić u sprzedawcy wybranego kiosku lub punktu sprzedaży „RUCH”), placówki pocztowe i listonosze w woj. podlaskim, kioski i punkty sprzedaży „KOLPORTERA” oraz „GARMOND PRESS”, siedziba redakcji „Niwy”.
**Prenumerata krajowa**
„POCZTA POLSKA”, „KOLPORTER”, „RUCH” — kwartalna 32,50 zł., półroczna 65 zł., roczna 130 zł.
Redakcja „Niwy” — kwartalna 50 zł., półroczna 100 zł., roczna 200 zł.
Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie województwa podlaskiego oraz oddziały „KOLPORTER” na terenie całego kraju.
Zamówienia na prenumeratę realizowaną przez RUCH S.A. można składać bezpośrednio na stronie www.prenumerata.ruch.com.pl
Ewentualne pytania prosimy kierować na adres e-mail: prenumerata@ruch.com.pl lub kontaktując się z Telefonicznym Biurem Obsługi Klienta pod numerem: 801 800 803 lub 22 717 59 59 – czynne w godzinach $7^{00}$ – $18^{00}$.
**Wpłaty na wysyłkę z redakcji przyjmuje:**
**Rada Programowa Tygodnika „Niwa”,**
BANK PEKAO S.A. O/Białystok
38 1240 5211 1111 0000 4929 0945
**Nakład:** 1 100 egz.

# У Аўгустоўскай пушчы

З чыгуначнага прыпынку Ястшэмбна кіруюся на ўсход, у напрамку вёскі Грузка. Каля першага павароту налева рэшткі каменных сцен — даўнішні двор. Не ўдалося мне знайсці нейкіх канкрэтных вестак пра гісторыю гэтага двара. Верагодна быў ён закладзены ў палове XVIII стагоддзя. У 1831 годзе ў фальварку быў затрымаўся Ігнат Дамейка, сябра Адама Міцкевіча, выдатны вучоны, пазнейшы рэктар Чылійскага нацыянальнага ўніверсітэта, які вёз нейкае паўстанцкае даручэнне ў Варшаву. Тут яго амаль не расстралялі, падазраваючы ў шпіянажы, аднак удалося яму ўцячы назад у напрамку Вільні. Пры „першых саветах" была там пагранзастава, бо ж недалёка ў 1939-1941 гг. праходзіла ўстаноўленая пактам Рыбентропа-Молатава савецка-германская граніца. Пасля вайны была там школа...




Мемарыяльная капліца ў Ясянове

Неўзабаве ад штабінска-ліпскай асфальтоўкі адыходзіць асфальтоўка ў Грузку. Сайт Штабінскай гміны: „Hruskie zostały założone między 1715 a 1744 rokiem w ramach Ekonomii Grodzieńskiej, tutejsze ziemie dzierżawił jakiś dygnitarz saski i założono wtedy folwark Jastrzębna oraz dwie wsie: Jastrzębna i Hruskie. Nazwa wsi pochodzi od białoruskiego słowa „hruskij", czyli grząski. W XIX wieku nazwę czasem niepoprawnie utożsamiano ze słowem Gruszki (Hruszki)". Паводле іншай версіі праязджала сюдою нейкая віленская княгіня і ўбачыўшы дрыгвяністае балота мела ўскрыкнуць „Ой, як тут грузка!". І далей паводле сайта: „Według opisu z 1882 roku Hruskie należały do parafii Teolin i gminy Kurjanka. Wioska leżała wśród pasów puszczy augustowskiej. Liczyła 32 domy i 252 mieszkańców. Zapewne w czasie I wojny światowej Hruskie doznało wiele strat, w 1921 roku liczyła zaledwie 23 domy i 132 mieszkańców". Цалкам магчыма, што частка жыхароў Грузкі магла падацца ў бежанства, адкуль, як вядома, не ўсе вярталіся. Магчыма таксама, што назва вёскі выводзіцца і ад іншага ландшафтнага фактару: яна вуліцоўкай распалажана на грудку — *грудская* вёска. Ад груда ўніз — сенажаці...

З Грузкі кіруюся ў бок Краснага, прынагодна плануючы заглянуць і ў вёсачку Ясянова. Аднак на лясных дарогах у глыбінцы Аўгустоўскай пушчы няма дарожных паказальнікаў і дабіраюся ў згаданае Краснае, адкуль вяртаюся на ліпска-аўгустоўскую шашу, а больш размашыста — на аўгустоўска-гродзенскую, з якой, зрабіўшы круг дыяметрам у некалькі кіламетраў, удаецца мне дабрацца да згаданага Ясянова. 26 жніўня 1943 года гітлераўцы сагналі жыхароў вёскі і расстралялі 58 чалавек, у тым ліку і малых дзяцей, будынкі знеслі або спалілі, дабытак зрабавалі. Зараз на месцы злачынства пастаўлены капліца-помнік. Цяпер у вёсцы толькі некалькі будынкаў...

Зноў вяртаюся ў Краснае, дзе ў пачатку вёскі драўляны двухпавярховы будынак былой школы. Сама вёска — доўгая вуліцоўка, пасярэдзіне прыватная крама, без наведвальнікаў у мой час. Прадаўжэннем вуліцы лясная караністая дарога ў Скяблева. У лесе ўдаецца мне страціць арыентацыю і пасля некаторага часу перада мною паказваецца вёска Рубцова; зноў вельмі свойская назва...

Нечаму дзівавацца. Уладыслаў Чарнецкі, аўтар манаграфіі па гісторыі Ліпскай зямлі: „Przełom XIX i XX wieku był decydujący dla polskości tych ziem. Do tej pory wcale nie było pewne czy ludność tutejsza w swej masie opowie się za tradycją rusińską czy polską. Ścieranie się tych dwóch wielkich tradycji wykształtowało też specyficzną, nigdzie indziej nie spotykaną, kategorię ludzi tutejszych — ani Polaków, ani Rusinów. (...) Dopiero ostatnie lata masowej migracji młodych, opuszczania terenów tradycyjnie zapóźnionych oraz wymierania starszych pokoleń przyniosły zmiany i gwałtowną polonizację terenów etnicznie rusińskich i białoruskich...". Да гэтага трэба дадаць, што да часу ўстанаўлення апошняй дзяржаўнай мяжы грамадскім цэнтрам для тамашніх вёсак — Бартнік, Далінчан, Ліпшчан, Ракавіч, Рубцова і іншых — было мястэчка Галынка, распалажанае ў вярхоўях рэчкі Ваўкушанкі, сёння ў межах Беларусі.

Вяртаюся ў напрамку Скяблева. Даведнікі інфармуюць, што там расійскія ўмацаванні перыяду Першай сусветнай вайны. Аднак у самой вёсцы заросны бункер Лініі Молатава. Вяртаюся на расхадныя дарогі, каб падацца далей на ўсход, да вёскі Жабіцкія. Колькі гадоў таму абагнуў я тую мясцовасць ад поўначы, цяпер жа рашыў не мінаць яе. На карце дарога са Скяблева паказалася простай, але на месцы трэба было спачатку падняцца на крутую горку, а пасля спускацца з яе. З іншай горкі дамінуе над вёскай голы бетонны бункер Лініі Молатава...

З Жабіцкіх даволі выгадная жвіроўка ў Старожынцы. Колькі гадоў таму Старожынцы былі раскапаны ўсялякай землерыйнай тэхнікай; пасярэдзіне раскопак тырчэў драўляны крыж. Выпадала спадзявацца, што тэрыторыя рэкультывавана, аднак уражанне ад цяпер пабачанага прыгнятальнае. Крыж, а як жа, тырчыць самотна надалей, тое што калісь-калісь было раскапана яшчэ не зарасло нейкай буйнейшай прыродай, затое нямногія вясковыя будынкі пасіўна чакаюць рашэнняў акружаючай прыроды; Старожынцы, гэта вёска занепадаючых будынкаў. А яшчэ 120-130 гадоў таму *Геаграфічны слоўнік Каралеўства Польскага* паведамляў: „Starożynce, wieś i folw., pow. augustowski, gm. Kuryanki, par. Hołynka, odl. od Augustowa 42 wiorsty, ma 44 domy, 291 mieszkańców, 1911 morg folw. i 857 mr. włośc. Folw. S. wchodzi w skład majoratu rząd. Łabno. W 1827 r. było 26 dm., 153 mk., par. Lipsk". Вёска, мабыць, бурліла жыццём...

Са Старожынцаў кіруюся ў Воўкуш, а дакладней за Воўкуш, дзе недзе ў лесе, недалёка польска-беларускай граніцы мае знаходзіцца помнік нейкаму афіцэру царскай арміі. Ён калісь згадваўся на ліпскім гмінным сайце, як мясцовая цікавінка. Аднак пра яго, здаецца, помняць толькі старэйшыя жыхары Воўкуша. Адносна малады чалавек, калі я спытаў пра той помнік, скіраваў мяне ў крыху іншым напрамку, у напрамку крыжа на расхадных дарогах. Вярнуўшыся, удалося мне спаткаць пажылую жанчыну, якая і ўказала правільную дарогу, паведамляючы, што калі была малодшай, ахвотна хадзіла туды збіраць грыбы. І што на помніку напісана „патомственный дваранін".

Нейкі кіламетр ці два за прылягаючай да Воўкуша Салавееўшчынай, якую зараз называюць больш ашчадна Салаеўшчынай, пабачыў я чорны крыж; не ўмею сказаць з чаго ён — ці з базальту, ці з мармуру, ці з чаго іншага. Выразаны ён так, быццам быў з дубовага ствала; абведзены невысокай драўлянай агароджай. На цокале крыжа надпіс: „На семь месте паль на поле битвы съ Германцами Штабсъ Капитань 29ой Артиллерійской бригады Потомственный Дворянинь Смоленской губ. Вячеславь Александровичь Левашевь 6го февраля 1915 года". На фундаменце далейшая інфармацыя: „Где на позиціи было погребено его тело до 26 числа того-же месяца, когда его отець Командирь 8ой ополченской батареи, по просьбе сына на этоть случай выкопаль и превезь для погребенія въ родную губернію на погость Церкви села Корелль Смоленскаго уезда въ одну могилу съ прежде скончавшимся его братомь". Гісторыя незвычайная. Цягам соткі гадоў помнік захаваўся ў выдатным стане. Каля помніка відаць і добра захаваныя сляды акопаў. Тут жа, у Аўгустоўскай пушчы, у час Першай сусветнай вайны ішлі заўзятыя баі і можна сказаць, што эксгумацыя дваранскага пакойніка і ўстаноўка арыгінальнага помніка адбываліся амаль у полі бою. Мікола Гайдук так быў запісаў расказ аднаго з мясцовых жыхароў пра тыя падзеі: „Напрадвесні 1915 года тут разгаралася кровапралітная бітва паміж рускай арміяй і акружыўшымі яе нямецкімі войскамі. Рускія спрабавалі прарвацца ў напрамку Гродна, але засеўшыя на навакольных пагорках, у пералесках і ў самым сяле немцы секлі іх з кулямётаў, а потым сустрэлі ў штыкі. Рускім не ўдалося прабіцца праз ланцуг нямецкага акружэння, амаль усе яны тут палеглі, а было іх сотні. Пахавальныя атрады мелі страшэнна многа работы, загрэбалі пабітых абы-як і абы-дзе. Навесну сяляне плугамі выворвалі іх целы...". Неўзабаве германская армія шпаркімі тэмпамі маршыравала ўжо на ўсход за адступаючымі калонамі царскіх войск і бежанцаў... Дзе дакладна знаходзілася сяло Карэл, зараз складана ўстанавіць, але пра Смаленскі ўезд *Геаграфічны слоўнік Каралеўства Польскага* пісаў тады так: „Pod względem etnograficznym masę narodowości stanowią Białorusini (90%)"...

А цяпер пара зноў вярнуцца ў Воўкуш. Гадоў нейкіх трыццаць пяць таму Мікола Гайдук так маляўніча пісаў пра тамашні ландшафт: „Уявіце сабе неглыбокі, абрамаваны старэчамі-дубамі лог, у якім віецца замысламатымі выкрутасамі залатадонная рачулка Воўкуш, а па яе паўднёва-ўсходнім, правым узбярэжжы рассыпалася каля трыццаці гаспадарак. На супрацьлеглым беразе застыла стромкая сцяна Аўгустоўскай пушчы: каржакаватыя волаты-дубы на ўскраіне зырка пільнуюць непраглядную, гонкай гушчэчы". Пра залатадонную рачулку так інфармаваў *Геаграфічны слоўнік Каралеўства Польскага*: „*Wołkusz al. Wołkuszanka*, rzeczka, prawy dopływ Czarnej Hańczy, bierze początek w lasach błotnistych koło wsi Krasne, na płn. od Lipska, w pow. augustowskim, z połączenia się strug płynących od wsi Ginowicz i Hołynki, płynie koło wsi Wołkusz i uchodzi do Czarnej Hańczy z praw. brzegu, przy 16 śluzie kanału augustowskiego. Od wsi Wołkusz do ujścia długa 7 w[iorst]". Пры моцсе побач рэчкі стаіць старэнькая драўляная слупавая каплічка з выявай Яна Непамуцкага.

Паміж Старожынцамі, Воўкушам і Лясымі Багатырамі палеткі. абсаджаныя тытунём. Раней, да часу заснавання тытунёвай прамысловасці ў Аўгустове, тамашнія людзі жылі з лесу. Вось што пісаў пра занятак багатырчан Мікола Гайдук: „Пры царызме і ў ваеннае дваццацігоддзе мужчыны ў Багатырах займаліся вырабам бандаркі і продажам яе ў навакольных мястэчках і сёлах. Рабілі бочкі, цэбры, начоўкі, шафлікі, вёдры, бойкі да масла, дойніцы, апалушкі, лыжкі, а таксама рабочыя сані і санкі, плялі васонжкі (лёгкі вазок для святочнага выезду, сплецены з лазы), карабкі, сявенькі і іншы посуд. Па цэлых тыднях і месяцах працавалі ў лесе пры вырубе, вывазцы і сплаве...".

Недалёка вёска Бартнікі, якой назва падказвае, чым займалася першая жыхары гэтай мясцовасці на ўскраіне даўняй Перстунскай пушчы, якая цяпер называецца Аўгустоўскай. Займаліся яны і апрацоўкай зямлі, і рамесніцтвам. Але доля не была ласкавай, таму шмат жыхароў тамашніх вёсак падалося за лепшай доляй у Амерыку. А зараз у Бартніках дамінуе пах, які паходзіць ад малочнага дабытку. А над самой вёскай высіцца аграмадны тэрыкон жвіру. Дарэчы, не толькі ў Бартніках, але і ў Старожынцах і ў іншых навакольных вёсках. Людзі шукаюць сваёй долі і ў лесе, і на зямлі, і за трыдзевяць зямель, і ў зямлі таксама...

Тэкст і фота Аляксандра ВЯРБІЦКАГА

ISSN 0546-1960